
Фестываль пяючай душы→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



«Там по маёвой росе»→9


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 21 (3289) Год LXIV Беласток, 26 мая 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Выданні «Нівы» ў сталіцы Беларусі

**Дзверы для доўгачаканых гасцей з Беластока расчыніў сталічны Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Яўген Вапа, які гэтым разам пераступіў парог мінскага музея як выдавец, і празаік Міхась Андрасюк, 15 траўня 2019 года прэзентавалі дзве новыя кнігі, якія выйшлі мінулым годам пад утульным дахам ужо даўно вядомай для беларускамоўнага чытача Праграмнай рады тыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва". Гэта былі кніга прозы Міхася Андрасюка „Поўня", і кніга вершаў „Краявід з невідочнай памылкай", у якой побач з задуменнымі філасофскімі беларускамоўнымі вершамі яе аўтаркі Надзеі Артымовіч размясціўся польскамоўны пераклад тых вершаў Марціна Рэмбача.**



Злева: Міхась Андрасюк, Яўген Вапа, Алесь Разанаў

Падляшскія госці задоўга да афіцыйнага адкрыцця імпрэзы ўжо атрымалі масу кампліментаў наконт гэтых твораў. Бо сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў спаткаліся з імі яшчэ да прызначанай гадзіны. Прычым выпадкова. То адзін, то другі, па аднаму і групамі яны сталі з'яўляцца ля музея, і першая дыскусія пра мінулае і будучае беларускай літаратуры пачаліся ўжо на адкрытым паветры за кубкам гарачай гарбаты.

— Беларуская літаратура гэта яшчэ і тое, чым беларусы Беласточчыны бароняцца ад асіміляцыі і даказваюць сваім польскім калегам сваю тоеснасць і прыналежнасць да вялікай беларускай культуры. Бо калі паказваюць сваім апанентам сапраўды вялікі твор, і знаёмяць з гэтым творам сваіх польскіх сяброў, то палякі пагаджаюцца з важнасцю і важкасцю беларускай культуры і заангажоўваюцца ёй, — тлумачыў Яўген Вапа.

— А для нашага чытача ёсць неверагодна важным даведацца, што беларускамоўная літаратура выходзіць і на Беласточчыне таксама, а яшчэ важней самім ацаніць яе сапраўдную веліч, убачыць і пераканацца, што гэта не асобныя кнігі асобных аўтараў, а натуральна ўзніклая сапраўдная вартая літаратура, — даводзілі свае думкі вядомыя беларускія літаратары і даўнія дзеячы на ніве беларускай культуры Алесь Пашкевіч і Усевалад Сцебурака.

Гэтую ж думку на правах вядучага агучыць і старшыня ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў", празаік, галоўны рэдактар часопіса „Дзеяслоў" Барыс Пятровіч падчас адкрыцця вечарыны і прадстаўлення прысутным гасцей з Беластока.

— Найноўшая гісторыя беларускай літаратуры на Беласточчыне пачынаецца з 1958 года, калі была створана „Белавежа", — праінфармуе ён слухачоў. — Некалі раней Сакрат Яновіч заявіў, што беларусы гэта адзіная такая нацменшасць на тэрыторыі Польшчы, якая здолела стварыць сваю ўласную беларускую літаратуру. Ніхто больш, ні немцы, ні літоўцы, ні ўкраінцы, ні расейцы — гэта памежныя народы, не змаглі стварыць сваю літаратуру. Сакрат Яновіч сказаў, што Польшчу можна лічыць краінай дзвюх літаратур — беларускай і польскай.

— Гэта таму, што мы жывём на сваёй зямлі, на якой спрадвеку жылі нашы продкі, — патлумачылі прадстаўнікі Падляшша.

Гэтая думка неаднаразова будзе паўтарацца і асэнсоўвацца ў гэты дзень і на самой вечарыне, і пасля яе, падчас сяброўскага развітання, якое расцягнулася праз тыя размовы да позняй ночы. Але гэта будзе потым.

А зараз, у сваім прывітальным слове Яўген Вапа прадставіць прывезеныя творы, раскажа пра аўтараў, і акцэнтуе ўвагу яшчэ на адным, не менш важным аспекце. Аўдыторыя пачуе з яго вуснаў не толькі пра „Белавежу", але і пра „БАСовішча", і пра „Бязмежжа", і пра іншыя беларускія справы, якія беларусы Польшчы зрабілі на сваёй зямлі і працягваюць рабіць і надалей.

А пасля ўтульны зал музея заліе прыемны барытон Міхася Андрасюка, што будзе чытаць сваю прозу. Голас, які многія пазнаюць, бо чулі яго па інтэрнэце на хвалях Беларускага Радыё Рацыя, і не толькі там. Міхась ужо выступаў у гэтым зале, калі за свае літаратурныя дасягненні атрымліваў прэстыжную прэмію „Залаты апостраф".

— Як я чытаў кнігу Міхася Андрасюка, у маіх вушах гучаў непаўторны голас аўтара, з яго вытрыманай танальнасцю і даходлівасцю, — скажа пасля заканчэння Міхасём чытання першага падрыхтаванага фрагмента Барыс Пятровіч.

— Як я ўпершыню пачуў, як чытае свае творы Андрасюк, я адразу зразумеў, што гэта сапраўдны пісьменнік, — падкрэсліць на развітальнай вячэры свае высновы вядомы беларускі бард і літаратар Зміцер Бартосік, які таксама прыйшоў для сустрэчы з беластоцкімі сябрамі.

Ды яшчэ анекдот распавядзе пра сапраўдных пісьменнікаў. З жыцця анекдот. Смешны такі.

А Міхась падрыхтаваў для прадстаўлення тры фрагменты са свайго твора. Вырашыў прадставіць той з трох, які яму здасца больш падыходзячым да аўдыторыі, якая збярэцца ў зале музея. Крыху павагаўшыся, пачаў з таямнічага расповеду пра жанчын, якія жнуць траву забыцця...

Так і хочацца пераказаць яго, настолькі ён заваражваючы, той фрагмент. Але не, не перакажу. Хто яшчэ не прачытаў, то спяшайцеся хутчэй набыць „Поўню". Пачытаеце самі. Не пашкадуеце.

Пасля першага фрагмента прысутныя не толькі не стаміліся, але напружана чакалі працягу. Аўтар з двух астатніх выбраў адзін, але па просьбе з залы прыйшлося пасля чытаць і трэці. Хіба каб усю кнігу чытаў Андрасюк, залу ніхто не пакінуў бы аж да ранку...

— Урэшце дачакаліся. Пасля доўгага зацішша „Поўня" Міхала Андрасюка. Літаратура бязмежная ў сваёй лёсавызначальнасці часу і прасторы... — падсумаваў яго выступ Яўген Вапа.

І распавёў пра працу над кнігай, пра калектыў, які спрычыніўся да яе выхаду, пазнаёміў прысутных з веліччу мастацкіх здымкаў для кніг Паўла Грэся...

Плаўна перайшоў да другой кнігі і да постаці яе аўтара Надзеі Артымовіч.

Беларускі вядомы паэт Алесь Разанаў падхапіў гэтую тэму. Калісьці, у 1994 годзе вершам Надзеі Артымовіч спадарожнічалі паслямовы-зномы Алеся Разанава, як разгадкі загадкавай паэзіі Надзеі. У палымянай прамове Разанаў паразважаў пра ўнікальнасць сваёй калегі-паэткі з Падляшша і прачытаў верш.

Свой верш, прысвечаны Надзеі, прачытаў і яшчэ адзін беларускі паэт Анатоль Івашчанка. Ён, гэтак жа як і паэт Ігар Бабкоў, паглыбіўся ў развагі пра падляшскіх аўтараў і іх творы. Са сваім выступам выйшла да мікрафона і ўнучка Якуба Коласа і Янкі Маўра Марыя Міцкевіч, якая пасля выступу падарыла Яўгену Вапу кнігу.

Яўген Вапа падзякаваў усім і падсумаваў вынікі ўсёй сустрэчы. А на пытанне кіраўніка ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў" Барыса Пятровіча пра тое, калі ён выдасць сваю кнігу, сціпла адказаў, што атрымлівае задавальненне ад вартых твораў іншых аўтараў. І пакуль такія творы будуць з'яўляцца ў беларускамоўнай прасторы, ён будзе рабіць усё магчымае, каб іх выдаваць.

Напрыканцы некалькі песень заспяваў вядомы беларускі музыка Алесь Камоцкі.

А яшчэ пазней Міхась Андрасюк ставіў аўтографы на сваю кнігу аматарам яго творчасці.

Але і на гэтым не закончылася.

Размовы цягнуліся да поўначы. І каб не было патрэбы вяртацца назад, гасцей з Беластока не адпусцілі б і ў гэтую позную гадзіну. Угаворвалі заначаваць у Менску. Але чалавек не заўсёды валодае сваім часам...

— У нас на Падляшшы беларускамоўных людзей натуральна становіцца менш. І гэта натуральны працэс. Ці не закончыцца на нашым пакаленні беларуская літаратура Падляшша, — разважалі госці ўжо сядаючы ў машыну.

— Не. Бо ўнукі сённяшніх маладых некалі пачнуць шукаць сваіх каранёў, і ўсё пачнецца аднова. І гэта таксама натуральны працэс, — супакойвалі іх менчукі.

Прэзентацыя закончылася. Але гэтая гісторыя не толькі пра прэзентацыю. І нават не толькі пра беларускую літаратуру. Гэта гісторыя пра саму беларускасць незалежна ад таго, дзе нехта правеў па ёй мяжу.

Падляшскі культурніцкі дэсант рушыў туды, адкуль прыехаў, паехаў да сваіх надзённых спраў. А пачатыя ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча ў Менску размовы працягваліся ўжо ў машыне. І ў менчукоў працягваліся, у сталіцы Беларусі. І як машына адолела трасу М-6 і прыехала ў Гародню, дык і тут працягваліся.

Думаю, што не спыніліся і зараз, ні ў Менску, ні ў Гародні, ні ў Беластоку...

Непасрэдны сведка і ўдзельнік дадзенай імпрэзы

Тэкст і фота **Віктара САЗОНАВА**





# Новы Балтыйска-Чарнаморскі звяз

Палітычнае жыццё ў суседзяў Беларусі ў апошні месяц кіпела напоўніцу. І літоўцы, і ўкраінцы выбіралі сабе кіраўніка дзяржавы. І ў адных, і ў другіх былы зышоў. Зышоў без кровапраліцця і ахвяр сярод мірнага насельніцтва ды і сярод ваеннага таксама. Нельга сказаць, што зусім без бою абышлося, бо баі былі, ой яшчэ якія, але выключна ў палітычным аспекце, без прымянення агнястрэльнай і халоднай зброі. Нават да мардабою не дайшло. Ну што ж, украінцы выпакутавалі сабе такое права на такія выбары. Ніхто ім яго не падарыў проста за „дзякуй". Ды і літоўцы ў свой час яго адстаялі.

Калі ў Літве зыход дзеючага кіраўніка быў элементам абавязковым, бо Далія Грыбаўскайтэ вычарпала максімальны тэрмін, які дазваляе літоўская канстытуцыя, то ўкраінцы маглі яшчэ пажыць з былым прэзідэнтам. Але не захацелі. Вырашылі, што знайшлі сабе лепшага. Так гэта ці не, пакажа час. Уладзімір Зяленскі, які прыйшоў на змену Пятру Парашэнку, як палітык яшчэ нічым не вызначыўся, акрамя ўпэўненай перамогі на выбарах. Як сказала б кіраўнічка Цэнтральнай выбарчай камісіі Беларусі Лідзія Ярмошына, калі б гэтая перамога тычылася яе любімага палітыка, „перамога элегантная". Больш чым семдзесят адсоткаў суайчыннікаў падтрымалі яго кандыдатуру. І адбылося гэта не толькі на вачах усёй Украіны і ўсяго свету, але і на яе ўласных вачах. Яна ж асабіста ездзіла паглядзець на ўкраінскія выбары. Праўда, анічога істотнага пра іх не расказала па вяртанні. Не падзялілася, так бы мовіць, сваімі ўражаннямі пра ўкраінскія выбары з народам Беларусі.

Прычыны такой гульні ў маўчанку зболышага зразумелыя. Проста яе любімы палітык прадказваў перамогу зусім іншаму кандыдату. А ён то памыляцца не можа. Бо чаго добрага за першай памылкай можна незнарок і другую зрабіць. А гэта ўжо сістэма. А сістэму ў Беларусі мяняць ніхто не збіраецца. Ну не зусім ніхто, але кіраўнічка ЦВК дык дакладна. Таму лепш сціпла прамаўчаць.

Ну а што тычыцца ўкраінцаў, то як ім будзе не даспадобы новы прэзідэнт, то яны абяруць навейшага. Тэхніку справы ўжо ведаюць. Таму новы хіба што будзе старацца ўлічыць інтарэсы свайго электарату, пакуль той не стаў электаратам каго іншага. Хоць Уладзімір Зяленскі і так паабяцаў больш аднаго тэрміну не мазоліць вочы суайчыннікам. Маўляў, і аднаго тэрміну хопіць, каб рэалізаваць свае планы і вычарпаць усю павестку дзеля дабрабыту і моцы ўкраінскага народа. Ну а пасля хай хто іншы, з новымі сіламі і новымі ідэямі, абы на карысць пайшло. Ці нават хай Пятро Парашэнка вернецца пасля пэўнага перапынку, які пойдзе на асэнсоўванне памылак мінулага і перспектыў будучага. А ўкраінцы хай самі вырашаюць, набіраюцца і палітычнага досведу, і дэмакратычную традыцыю ўзмацняюць. Усё ж толькі пачынаецца.

Зрэшты, хочацца сказаць не толькі пра гэта. Вось яны, тры паслясавецкія краіны — мы і нашы суседзі. Такія розныя адбыліся выбарчыя кампаніі ў Літве і Украіне. Розныя па ўсіх параметрах. І па тэхналогіях, і па прынцыпах. Пра ўнікальнасць нашай айчыннай выбарчай кампаніі і яе непадабенству да суседзяў я і не гавару. Ну ўсё не так як у іх. Акрамя адной дэталі, якая аб'ядноўвае ўсіх — і літоўцаў, і ўкраінцаў, і беларусаў. І гэтая маленькая дэталь з'яўляецца самай вялікай па тэрыторыі краінай. Усе баяцца, што Расія мае намер павялічыцца за кошт тэрыторыі суседзяў. А Расія ў сваю чаргу старакецца не расчараваць усіх іх у іхніх страхах і ўвесь час пацвярджае праўдзівасць гэтых здагадак.

І вось тут кожны пачынае бараніцца пасвойму. Хтосьці ўцёк ужо ў НАТА, камусьці прыходзіцца нават ваяваць на ўсходзе сваёй айчыны, і ўсё з тае прычыны, што іх былыя кіраўнікі не пайшлі ў тое НАТА пакуль была мажлівасць, ну а хтосьці дастае апошнія козыры і ці то блеф, ці то сапраўды верыць, што зможа даць адпор любому ў гэтым свеце, прычым па ўсіх кірунках, не выключаючы ні палітычнага, ні вайсковага.

Ну вось ён і вымаляваўся, той доўгачаканы і шматпакутны балтыйска-чарнаморскі звяз. Вымаляваўся з настолькі розных палітычных сістэм і лідараў, што самі яны аніяк не змаглі б паразумецца.

Але ўсходнія суседзі дапамагаюць паразумецца. І хутчэй за ўсё дамогуцца. А калі яшчэ заходнія падключацца, то дакладна.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Як я захацеў будаваць Амерыку

Чытанне кніг гэта не падыходны занятак для імігрантаў. З усіх гэтых кніг, якія інтэлігенцкай звычкай сфармаванай у Польшчы купляў я ў значнай колькасці на працягу некалькіх гадоў пабыўкі за Атлантыкай, мала якую прачытаў да канца. Амерыка плаціць імігрантам доларамі за працу параўнальную з прымітыўнай гароўкай будаўнікоў егіпецкіх пірамід. Да апошняга поту. І ёсць у тым нейкая няўмольная логіка: піраміды ад тысячаў гадоў трымаюцца. Амерыка становіцца ўсё больш багатая... для шторазь меншай групы. А я, хоць у рэшце рэшт прачытаў тыя кнігі, не адчуваю сябе ні багацейшым, ні мудрэйшым ад таго, якім быў раней. Гароўка пачыналася ў пачатку тыдня, калі мы ў тры дні перакінулі ўдвух, я і Мірза, мусульманскі расіянін з таджыкскім радаводам, спачатку на «брыдж» і далей «гойстам» уверх бетонныя трылінкі; разам больш за 24 тоны. Мы павінны былі паскладваць іх у ідэальныя кубы на панарамнай тэрасе шматпавярховіка, паскудна раскошнага апартаментоўца. Якая ж была мука дакладнага накладвання адну на адну, прытым пад лінейку, дзесяцікілаграмовых пліт з бетону для таго, каб задаволіць эстэтычнае пачуццё багацеяў, капрызных жыхароў, якія марылі, каб пазбавіцца ад сваіх вачэй потных прывідаў-рабацяг. Неяк мы справіліся з задачай, хаця ў першы дзень працы Мірза, не менш змардаваны ад мяне, занядбоўваючы рэлігійную канспірацыю, дастаў малюсенькі дыванок з заплечніка падчас абеду і стаў біць паклоны перад Алахам, верагодна, выпрошваючы больш лёгкую працу. Я захапляўся яго стараннасцю і адчаем веры. Надыходзячы ўік-энд быў як абяцанне мусульманскага раю. На жаль, у чацвер нам загадалі тыя 24 тоны пліты перанесці на дах вышэй тэрасы, да апошняй штукі. Бо перашкаджалі б хадзіць жыхарам у выходныя дні. Нам далі на тое час да пятніцы. Дадатковых работнікаў хутка сцягнуў наш бос. З 9 раніцы, стоячы на хісткіх рыштаваннях, я прымаў пліту з рукі незнаёмага мексіканца і з пазіцыі глыбокага паклону падымаў яе на вышыню грудзей, затым гвалтоўным парывам рук над галавой падаваў яе ў рукі прымаючага, хіба перуанца. Ад яго браў пліту Мірза і скідваў яе кудысьці, хвала Алаху, абы-як, таму што мы не сумняваліся, што ні адзін багаты нахабнік на дах не палезе, нават з-за хісткай лесвіцы даўжынёй 10 метраў, абмызганай нейкімі шмаравідламі і ліпкімі плямамі, забяспечваючай пры гэтым многімі экстрэмальнымі адчуваннямі пры ўваходзе. Гэта быў цудоўны час! Ніхто нам не стаяў над галавой, ані раздражнены бос-амерыканец, ані эстэты-мільянеры. Мы маглі плесці пра ўсё, а сліна прыносіла шмат мяцежных слоў і нам удавалася дагаварыцца на руска-англійска-іспанскай трасянцы, мы змаўляліся супраць несправядлівага свету з сапраўды інтэрнацыянальным запалам працоўнага класа. Пасля шчаслівых выходных, у панядзелак, аказалася, што канструкцыя даху можа не вытрымаць дадатковай нагрузкі, што было відавочна нават для такога дылетанта, як я. Інакш думаў быў інжынер-будаўнік. Аднак пасля выходных дзён поўных страхаў прыйшоў да такой жа думкі як дылетант, чые нясмелыя прэчанні ў папярэдні тыдзень збыў матам. Маё задавальненне было піравым. Бос на гэты раз паскупіўся на памочнікаў. Мы ўдвух сталі пераносіць пліты на тэрасу. Мірза падаваў іх зверху і я, з-за адсутнасці прыёмшчыка на нізе, клаў іх ніжэй ад сябе на двухузроўневы памост з дошак, на якіх стаяў. Калі дошкі пачалі злавесна храбусцець, я спускаўся на яшчэ ніжэйшую платформу. Тады спускаўся на тэрасу па хісткай лесвіцы Мірза і падымаў да мяне свае млявыя рукі. Атрымаўшы пліту, пераносіў яе на тэрасу, вядома, складваючы ўсе пліты ў стандартныя кубы. Кожны такі цыкл доўжыўся каля 15 хвілін. Мірза затым зноў падымаўся па лесвіцы на дах. Гэта былі 3-4 шчасныя для мяне хвіліны. Я мог тады нават трохі аддыхацца. Мірза быў нястомны. Уваходзіў і спускаўся па лесвіцы, як той біблейскі анёл і нават падчас абеду адмовіўся ад ежы, каб памаліцца. А пасля — тое ж. Мірза падаваў пліты з даху, я ўкладваў іх на вышэйшай платформе, спускаўся ніжэй і падаваў іх Мірзе, які ўжо сышоў з лесвіцы і з непарушным спакоем браў іх у рукі ад мяне, затым клаў іх у кубічныя штабелі на тэрасе. У імя чаго была тая гароўка? «Колькі Бог адыме, верне ўдвая», — казаў Мірза за прыпавесцю аб Іове.

— «У адпаведны для чалавека час». Я зразумеў гэта не пазней і не раней, чым трэба.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# За чорным хлебам

Мінулы тыдзень прайшоў мне на падарожжах з даволі вялікай колькасцю кіламетраў. Спачатку апынуўся я на Верхняй Сілезіі ў Глівіцах, а затым шляхі мае накіраваліся ў Мінск. З Глівіцаў у Мінск прыблізна дзевяцьсот кіламетраў. На такім адрэзку можна ўжо смела наглядаць за эканамічна-цывілізацыйнымі адрозненнямі і выклікамі. І то на ўнутраным польскім узроўні, як і на міжнародным, паміж суседнімі дзяржавамі.

На Сілезію прывялі мяне сямейныя справы. Апошні раз пабываў я там трыццаць тры гады таму назад на вяселлі маёй дваюраднай сястры. Там менавіта ў Глівіцах пасля вайны за хлебам выехалі татавы родныя брат і сястра. Дзядзька Пеця, на жаль, памёр і там пахаваны, але цёця Ніна з мужам Янкам, родам з Мора, вярнуліся пасля выхаду на пенсію ў Беласток, каб штодзень быць бліжэй сваіх людзей і царквы. Не перасадзілі сваіх каранёў у прамысловы краявід. Калі ў маіх бацькоў было чатырох сыноў, то ў дзядзькі Пеці і цёці Зосі былі чатыры дачкі. Зразумела, што такі палавы расклад быў прычынай сямейных жартаў і разважанняў за сталом паміж братамі наконт справядлівасці гэтага свету. Штогод на канікулах усёй вялікай сям'ёй з'язджалі яны да нас на вёску, каб падыхаць чыстым паветрам, памагчы ў гаспадарцы і наведаць нашу вялікую радню, адным словам — быць у курсе падзей сваіх аднапляменцаў. Мы, дзеці, гулялі разам таксама і ў футбол, бо дзяўчаты трэніравалі яго там на месцы. Выклікала гэта ў нас, пушчанскіх дзікуноў, пашану і павагу. Таксама супольныя пасядушкі на печы былі тым момантам, калі выяўлялі мы свае найбольшыя дзіцячыя таямніцы. А яны былі нам цікавымі па вельмі простай прычыне. Мы распавядалі найчасцей пра падзеі з жывёльна-прыроднага свету, а яны пра свет шахтаў і чыгункі. Адны і другія гаварылі на сваіх мовах. Гэта таксама было вельмі павучальнае, бо іхні гутарковы варыянт польскай мовы значна разыходзіўся з вядомым нам літаратурным гучаннем.

Дзядзька Пеця працаваў на чыгунцы і вельмі яе любіў. Прайшоў розныя пасады і цяжкай працай дабіўся таго, што кіраваў рухам вагонаў для вугалю ва ўсёй катавіцка-глівіцкай агламерацыі. Ён вельмі любіў падарожнічаць цягнікамі, заўсёды вазіў з сабою тоўсты расклад ПКП па ўсю краіну. І заўсёды адзін вечар бяседы з маім татам выглядаў наступным чынам. Па некалькіх чарках пачынаў дзядзька распавядаць майму тату, як найхутчэй і з якімі перасадкамі можна даехаць у любы куток Польшчы. Пачыналі яны падарожнічаць заўсёды з Гайнаўкі ці Чаромхі ў Шчэцін, бо там бацька служыў у арміі. У галаве дзядзькі Пеці былі не толькі гадзіны ад'ездаў, прыездаў, перасадак, але і нумары цягнікоў. Потым бацька пытаўся пра Кракаў, бо там яго партыйны актыў прымусова накіраваў будаваць Новую Гуту за тое, што ён не падпісаўся, каб стварыць калгас у нашых пушчанскіх вёсках. І так яны за сталом разам падарожнічалі пальцамі па Польшчы па тоўстым раскладзе язды. Мяне іхнія размовы вельмі заваражвалі і, мабыць, таму менавіта... цягнікі гэта таксама і мой любімы сродак транспарту. На ім разам з дачкой з'ездзілі мы ўсю Польшчу. І надалей мне наймілей слухаць свісток кіраўніка цягніка, які дае сігнал да чарговай маёй паездкі.

А цёця Зося працавала на шахце пры сартаванні вугалю, які выязджаў з глыбіні на самую зямлю. Яе расказы пра нягоды і небяспеку працы шахцёраў засталіся ў маёй памяці да гэтых дзён. Яна таксама за хлебам прыехала сюды з такога ж беднага Кялецкага ваяводства. Працуючы шуфлем як роўная з роўнымі сярод мужчын, радавітых сілезцаў, здабывала прызнанне. І таксама, як усе нашы бацькі, марылі яны пра тое, каб іхнім дзецям было лягчэй зарабляць на хлеб наш штодзённы. Такая праца падарвала яе здароўе, але апека дзяцей да апошніх дзён жыцця была для яе аддзякай за ўсё пражытае. На чорным золаце і хлебе прапілося і праліваецца па сённяшні дзень многа гора і слёз.

**Яўген ВАПА**

# Фестываль пяючай душы

У днях 15-19 мая ў Беластоку, у канцэртнай зале філармоніі, адбыўся XXXVIII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2019”. Ганаровы патранат над фестывалем трымаў Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Анджэй Дуда, а мастацкі патранат — маэстра Кшыштаф Пэндэрэцкі. У ліку галоўных патронаў фестывалю былі таксама Саюз польскіх кампазітараў і прэзідэнт горада Беластока.

Журы сёлетняга фестывалю склалі праф. Рамуальд Твардоўскі з Варшавы, праф. Віялета Мілкоўская з Беластока, а. Юры Шурбак з Варшавы, праф. Андрэй Пятрэнка з Санкт-Пецярбурга, праф. Яўген Саўчук з Кіева, праф. Павілас Гіліс з Вільні і праф. Дымітр Дымітраў з Сафіі. У Фестывалі ўдзельнічала 25 хароў: па пяць з Украіны і Расіі, чатыры з Польшчы, тры з Беларусі, два з Латвіі і па адным з Балгарыі, Ганы, Грузіі, Сербіі, Славакіі і Эстоніі.

Інаўгурацыйны канцэрт выканаў Прыднястроўскі дзяржаўны хор з Тыраспаля, мінулагодні пераможца фестывалю. Мерапрыемству спадарожнічалі канцэрты ўдзельнікаў фестывалю ў розных мясцовасцях Польшчы: Варшава, Беласток, Бельск-Падляшскі, Сейны, Нарва, Міхалова, Саколе, Легіянова, Здуньска Воля, Белавежа, Крынкі, Васількаў, Цехановец, Шчучын, Гайнаўка, Студзянкі, Орля, Дуброва-Беластоцкая, Мельнік, Аўгустаў.

Сёлетні фестываль, гэтак жа як і ранейшыя, сабраў шырокую палітру выканаўцаў, якія прадстаўлялі багаты спектр царкоўнай музыкі — не толькі шырока вядомых класікаў гэтага жанру, як Пётр Чайкоўскі, Сяргей Рахманінаў, Павел Часнакоў, Аляксандр Архангельскі ці Дзмітрый Бартнянскі ды менш вядомых творцаў малодшага пакалення або і зусім ананімных кампазітараў.

У катэгорыі прыходскіх хароў першае месца прысуджана хору Варшаўскай архікатэдры (Польшча), другое месца Маладзёжнаму хору „Адамант” з Рыгі (Латвія), трэцяе месца прыходскаму хору з Варвіцы (Украіна).

У катэгорыі свецкіх аматарскіх хароў два першыя месцы журы прысудзіла хору „Gaudium” з Вроцлаўскага ўніверсітэта ды хору „Medici Cantantes” з вроцлаўскага Медыцынскага ўніверсітэта (абодва Польшча), другое месца прысуджана Мужчынскаму хору Карэліі з Петразаводска (Расія), а трэцяе Жаночаму моладзеваму хору „Акадэмія” Паўднёваўкраінскага педагагічнага ўніверсітэта імя Канстанціна Ушынскага з Адэсы (Украіна).

У катэгорыі дзіцяча-моладзевых хароў першае месца прысуджана Хлапечаму хору з Сафіі (Балгарыя), два другія месцы хору „Лыбідь” Дзіцячай музычнай школы з Кіева (Украіна) ды Хлапечай харавой капэле „Арлята” з падмаскоўскага Зеленаграда, трэцяе месца Канцэртнаму хору „Радуга” з Масквы (абодва Расія).

У катэгорыі хароў музычных вучэльняў першае месца прысуджана хору Акадэмічнага музычнага вучылішча пры Дзяржаўнай кансерваторыі імя Пятра Чайкоўскага з Масквы (Расія), другое месца хору Музычнага вучылішча імя Віктара Касэнкі з Жытоміра (Украіна), трэцяе месца Мешанаму хору Музычнага вучылішча імя Язэпса Медынса з Рыгі (Латвія).

У катэгорыі прафесійных хароў два першыя месцы прызначана Акадэмічнаму камернаму хору з Чарнаўцоў (Украіна) і Акадэмічнаму хору „Млада” з Пярмі (Расія), два другія месцы Архірэйскаму хору Свята-Духаўскага сабора з Мінска (Беларусь) і вроцлаўскаму хору „Cantores Minores Wratislavienses” (Польшча); трэцяе месца прысуджана хору „Harmonious” з Акры (Гана, Экватарыяльная Афрыка).

Былі вылучаны і дырыжоры: Віталій Сабалеўскі з Мінска, Тамара Парфёнава з Берасця, Андрый Маразюк з Жытоміра, Андрэй Чарняцоў з Зеленаграда, Тацяна Мегрэлідзе з Тбілісі ды Анна Ганькова з Баранавіч.

Журы падкрэсліла значэнне Фестывалю не толькі для папулярызацыі багатай спадчыны твораў царкоўнай музыкі, але і для прэзентацыі творчасці кампазітараў маладога пакалення, што выяўляе сутнасць Фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка” ў Беластоку як агульнай мовы пакаленняў, культур і народаў.

У гэтым кантэксце асаблівa варта падкрэсліць удзел хароў з Польшчы, якія паказалі самае выдатнае валоданне гэтай мовай пакаленняў, культур і народаў.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Узорны хор „Радуга” Дзіцячай харавой школы імя Віктара Роўды з Баранавіч



Хлапечы хор з Сафіі



Хор Варшаўскай архікатэдры



Моладзевы хор Дзяржаўнага музычнага каледжа з Берасця



Архірэйскі хор Свята-Духаўскага сабора з Мінска



Хор „Harmonious” з Акры

## Не мела баба клопату...

У лістападзе 2017 года патэлефанавала мне панечка з «Оранж-Электраэнергія» і рэкамендавала пастаўку электрычнага току для маёй хатняй гаспадаркі. У час размовы захваляла, што рахункі іхняй фірмы за ўсе віды паслуг будуць спалучаны ў адно, затым буду плаціць намнога меншы рахунак. Задумаў рызыкнуць. Так і зрабіў. Праверыўшы дасланы поштай дакумент, падпісаў дамову махам адной рукі. Не спадзяваўся я ніякіх сюрпрызаў. Першы рахунак ад новага пастаўшчыка, значыць ад «Оранж-Электраэнергія» аказаўся невялікі. Затым у задавальненні не паглядзеў я, на які рахунак у банку пералічыць грошы. Паслаў іх тады на рахунак «Оранж Польска С.А.», на які пералічваў грошы за інтэрнэт і тэлебачанне. Не атрымаўшы ніякіх заўваг, чарговыя пераводы пасылаў на той самы банкавы рахунак. Пры канцы 2018 года «Электраэнергія» патрабавала ад мяне пагасіць запазычанасць за электраэнергію — 288,67 зл. Я на аснове банкавых дакументаў даказваў, што ў мяне няма ніякіх даўгоў, але мае рэкламацыі аказаліся, што гарох аб сцянку. У снежні атрымаў я з «Оранж Польска С.А.» разлік за электраток за паўгода, г.зн. за май-лістапад 2018 г., у якім запісана, што ўзнікла пераплата 150,66 зл., якая будзе адлічана пры чарговым рахунку. Аднак суполка «Оранж-Электраэнергія» паслала свой рахунак за лістапад-снежань, у якім патрабавала заплаціць 113,69 зл. Я заплаціў. Запазычанасць заставалася аднак невысветленай, паколькі я рашуча адказаўся другі раз плаціць, а «Электраэнергія» не здавалася — плаці без разгавору! 15 красавіка я падаўся на шпітальнае лячэнне. Кватэра засталася без догляду. Са сваёй беластоцкай дачушкай трымаў я пастаянны кантакт. На Вялікдзень наведала мяне з унучкай у бальніцы. Прывезла свянцонку, абмяняліся навінкамі. На Праваднуюнядзелю падаліся з дачкою ў Чаромху, затым рашылі праверыць дом у Кузаве. Калі зайшлі ў хату, дык выявілася, што не працуе халадзільнік. Не працаваў таксама лічыльнік электратоку. Адключылі, значыцца, мяне ад электрычнай сеці. Халадзільнік запоўнены прадуктамі размарожаны. І што было з гэтым рабіць, везці ў Беласток? Знайшлі добразычлівага чалавека, які пагадзіўся ўзяць у свой халадзільнік размарожаныя прадукты. Ці будуць надавацца для спажывання, Усявышні адно ведае. На другі дзень я перадаў заяву ў гайнаўскую пракуратуру аб здзейсненым злачынстве, фальшаванні банкавых дакументаў. На доказ прыклаў фальсіфікаваныя рахункі. Другую заяву перадаў павятоваму заступніку спажыўца. Я ўпэўнены, што доказаў не трэба будзе доўга шукаць, бо махлярства і ашуканства шытае надта грубымі ніткамі.

Уладзімір СІДАРУК

## Дапамога для гурткоў вясковых гаспадынь

Ад 7 траўня абавязвае адмененае распараджэнне Міністра інвестыцыі і развіцця ад 29 красавіка ў справе асаблівых дамоваў і парадку прызначэння, як і разліку старшынёй Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі фінансавай дапамогі з дзяржаўнага бюджэту гурткам вясковых гаспадынь, а таксама квоты гэтай дапамогі. Гурткі вясковых гаспадынь, як у мінулым годзе, так і цяпер могуць хадайнічаць за атрыманне дапамогі на рэалізацыю статутных задач. Заявы можна падаваць ад 7 траўня ў Агенцтва да моманту вычарпання сродкаў. Для гэтай мэты прызначана сорак мільёнаў злотых.

(УС)

# Маем у крыві беларускасць



Гурт „**Калінка**” — адзін з самых папулярных беларускіх эстрадных гуртоў Падляшша. Пакуль выдаў чатыры кампакт-дыскі са сваёй музыкай. „Калінка” іграла канцэрты не толькі ў Польшчы, але і ў Бельгіі, Нямеччыне, а таксама на Беларусі. З лідарам ды мастацкім кіраўніком гурта „Калінка”, а таксама лідарам фольк-рок-групы „Гай”, а заадно ўласнікам музычнай студыі „Apollo Records” **Марыюшам Харужым** размаўляе Юрка Буйнюк.



**Юрка Буйнюк: — У якім годзе паўстаў гурт „Калінка”?**

**Марыюш Харужы:** — Гурт „Калінка” быў заснаваны ў 2002 годзе. Першапачаткова быў гэта фальклорны калектыў, а ў 2007 годзе пераўтварыўся ў эстрадны гурт, які дзейнічае і зараз.

**— Хто зараз складае „Калінку”?**

— Склад гурта „Калінка” мяняецца, таму што дзяўчаты выходзяць замуж, засноўваюць сем'і і адыходзяць з гурта. На іх месца прыходзяць новыя дзяўчаты. Зараз апрача мяне і маёй жонкі Сары ў гурце „Калінка” спяваюць Паўліна Колас, Юстына Юхімовіч, Эдыта Сухар, Дар'я Паўлючук, Дамініка Юшкевіч ды інструменталіст Павел Верабей.

**— Не кожны ведае, што на першым альбоме „Калінкі” на гармоніку іграў сам Славамір Трафімюк з гурта „Ас”...**

— За ўвесь час прайшло многа музыкантаў, якія дапамагалі нашаму гурту ў музычным плане. Таксама ў Славаміра Трафімюка быў эпізод, калі іграў у аранжыроўках песень „Калінкі”. Час ад часу мы сустракаемся з гуртом „Ас”.

**— На першым альбоме „Калінкі” былі таксама і Вашы аўтарскія песні.**

— Аўтарскія тэксты былі, вядома, у маёй аранжыроўцы. Адна песня поўнасцю была мая і гэта была „Кароткая любоў”. Другая была народная сербская, толькі дзяўчаты з „Калінкі” напісалі для яе беларускі тэкст. Аднак на гэтым дыску было больш нашых народных беларускіх песень.

**— Апрача „Калінкі” Вы ўзначальваеце таксама гурт „Гай”. Які яго склад?**

— У складзе гурта сем чалавек: бубнач, бас-гітара, электрычная гітара, гармонік, скрыпка і двое вакалістаў.

**— Ці гурт „Гай” выпусціў свой альбом?**

— Як у прыказцы: шавец ходзіць у абдзертых ботах. У мяне свая студыя, усіх запісваю, а на свой „Гай” час яшчэ не прыйшоў. Праўду кажучы, мы з „Гаем” ужо пачалі запісваць альбом, але памаленьку ідзем наперад.

**— Які праект Вам бліжэйшы — „Калінка” ці „Гай”?**

— Адзін і другі сэрцу блізкі. „Калінка” — больш эстрадны калектыў, які выступае ў Польшчы і за мяжою. Былі мы ў Бельгіі, Нямеччыне і на Беларусі. „Калінка” іграе файную, жывую музыку. У ёй ёсць і танец — сцэнічны рух дзяўчат. А „Гай” прадстаўляе больш якасны ўзровень, таму што гэта вакальна-інструментальны калектыў. Гледзячы з другога боку, у гурце „Гай” адсутнічае эстрадны бок, няма эстраднага шоу, якое характэрнае „Калінцы”.

**— Вы ўспомнілі, што „Калінка” шмат выступала за мяжою. Дзе найлепш вас успрымаюць?**

— Найбольш, вядома, мы былі на Беларусі. Там штогод наведваем філармонію ў Мінску. На Беларусі людзі нас прымаюць вельмі добра. Яны захоплены ідэяй сустрэчы сяброў. У гэтым годзе была восьмая частка нашых музычных сустрэч. Людзі з Беларусі захоплены, што мы — з польскага боку мяжы — маем у крыві беларускасць, што ў рэпертуары „Калінкі” маем беларускія песні, якіх яны не чулі. Гэта песні, якія гучаць толькі на Беласточчыне. Калі едзем на Беларусь ці з „Калінкай” ці з „Гаем” дык заўсёды вязем адну песню на польскай мове, таму што сярод публікі ёсць людзі з польскімі каранямі. Мы перш за ўсё вязем беларускую музыку, а сустракаемся з польскай меншасцю і гэта ёсць цікавая справа. Яны прымаюць нас вельмі добра. А калі гаварыць, дзе найлепш нас успрымаюць, то гэта напэўна Мінская філармонія. Зайгралі мы таксама два вельмі файныя канцэрты ў Бельгіі і ў Латвіі. Былі і ў Нямеччыне. Кожны бок свету прымае нас вельмі добра. Заўсёды пасля канцэртаў трымаем кантакт з запрашаючым бокам. Атрымліваем ад іх віншаванні, падзякі за канцэрты. Кожны канцэрт крышку іншы, але ўсе яны нам вельмі блізкія.

**— З гуртом „Калінка” Вы запісалі чатыры альбомы, у тым ліку дзве кружэлкі калядак. Калі з'явіцца навейшы альбом „Калінкі”?**

— Песень на новы альбом мы назбіралі, але не маем такога ціску, каб штогод выпускаць новы альбом. Папросту дзейнічаем, робім чарговыя песні. На ўвесь артыстычны сезон выпадае больш-менш тры або чатыры новыя песні. Ад апошняга альбома „Ой на горы” крышку вады ў рэчцы праплыло і многа новых песень назбіралася. Толькі трэба пасядзець у студыі і падрыхтаваць для запісу, каб усё добра гучала. Толькі не хапае на гэта часу. Можа ў гэтым годзе будзе больш часу, але не хачу нічога абяцаць. Матэрыял для альбома ёсць, толькі трэба яго сабраць і ўсё будзе добра.

**— Як Вам працуецца на адной сцэне з жонкай?**

— Праўду кажучы, гэта ідэальная сітуацыя, таму што абое любім музыку. Але калі еду з канцэртамі з „Гаем”, яна застаецца ў хаце. А калі выступаем у „Калінцы” дык кожная гадзіна з блізкімі людзьмі гэта самы вартасны час. Калі мы едзем з „Калінкай” дык заўсёды ў арганізацыйных, лагістычных, музычных справах можна разлічваць на жонку. Яна ўсяго дапільнуе. Маю вельмі моцную падтрымку ад сваёй жонкі.

**— Хто адпавядае за аранжыроўкі для „Калінкі”?**

— „Калінка” гэта мой аўтарскі праект. За аранжыроўкі, за запіс вакалаў і гуку, а таксама за графічны праект вокладак на дысках адказваю я, гэта мая работа.

**— Вы таксама ўласнік студыі і выдавец беларускай музыкі на Падляшшы. Хто апошнім часам з беларускіх гуртоў запісваў у Вас альбом?**

— Найчасцей запісваю калектывы з жывым гукам, такія як „Куранты” з Бельска-Падляшскага, „Арляне” і „Вэрвочкі” з Орлі, „Оморфос” з Сямятыч. У нас на Падляшшы вельмі многа фальклорных калектываў і я запісваў іх у сваёй студыі. Гурты поп-фольк у мяне не запісваюцца, таму што маюць свае хатнія музычныя студыі. Напрыклад Юрка з „Прымакоў” і „Lailand” самі запісваюць свае альбомы. Калісьці запісваўся ў мяне гурт „Ас”. Запісваю хоры, дуэты, квартэты, якія спяваюць ужывую. Запісаў я гурты „Вянок” і „Спадчына” з Бельскага белліцэя. Вельмі люблю працаваць з жывым гукам і жывымі інструментамі. Таксама вельмі часта запісваю польскія гурты сцэны хіп-хоп. Часам здараюцца і рок-гурты

**— Адкуль у Вас зацікаўленне музыкай?**

— Мая маці спявае ў гурце „Расспяваны Гарадок”. Мой бацька іграе ў гурце „Хутар”, а дзед з боку маёй маці іграў на гармоніку. Усё пачалося з таго, што ў другім класе пачатковай школы ў Гарадку бацькі запісалі мяне на музычныя заняткі, якія вёў славуты ў нашай гміне Янка Карповіч „Калакольчык”. Паказаў ён мне пару акордаў на клавішах і я навучыўся іграць. І з гэтага пачалася мая дарога ў музыку. Потым была музычная школа ў Беластоку, якая мне вельмі дапамагла ў маёй далейшай працы ў галіне музыкі.

# Маракамэ: Памажыце самім сабе. Вярніцеся да сябе і добра жывіце ў сваёй культуры

**Пра гэта як абараняць традыцыю, будаваць сілу ў групе і грамадскасці і захаваць сваю тоеснасць у свеце, які мяняецца, расказваў 8 траўня ў Варшаве Маракамэ Хасэ Луіс «Каміра» Рамірэс — прадстаўнік адной з самых карэнных культур у Мексіцы. Што паўплывала на індзейцаў, што іхняя традыцыя існуе і не памянялася ад трох тысяч гадоў? Рытуалы, традыцыі, танец, мастацтва і паломніцтва гэта паводле іхняй культуры дарога да сябе.**






«Хачу вам расказаць пра нараджэнне, пра час, калі Зямля не мела яшчэ гадзінніка, усюды было цёмна, а на свеце жыў толькі адзін чалавек, Латакамэ. Латакамэ жыў у цемры, быў разгублены. Аднойчы сустрэў на сваёй дарозе Бабулю-дождж, якая яму загадала: «Пабудуй човен». Латакамэ збудаваў човен і выпалі дажджы. Падала пяць дзён, пяць тыдняў, пяць месяцаў і пяць гадоў, а можа і даўжэй, бо час надалей не існаваў. Але вада была патрэбная, каб бабуля таксама зышла на зямлю. Ад яе ўдару палкай выраслі горы і зямля, а таксама нарадзіліся багі, якія памяняліся ў крыніцы, скалы... усе пачалі ісці ў пошуках святла. Тады сустрэлі на сваёй дарозе блакітнага аленя, які абяцаў завесці іх у месца, дзе з'явіцца святло. Сустрэлі таксама Дзеда-агонь, які загадаў ім знайсці дзіця. І калі знайшлі тое дзіця, яно пачало так танцаваць з агнём, што згарэла, а агонь пагас. Многія перасталі верыць і памяняліся ў скалы, але былі і такія, якія верылі, што гэта здарылася не без прычыны. І сапраўды, на наступны дзень устала Сонца. І гэта быў пачатак свету», — гэта скарочаная гісторыя ўзнікнення свету, ад якой пачалася сустрэча з гасцямі з Мексікі. Для жыхароў Еўропы гэта напэўна цікавая легенда, але для індзейцаў Уічолі, якія жывуць у цэнтральнай Мексіцы, гэта падзея, якая мае гістарычнае значэнне і з'яўляецца фундаментам іх вераванняў. Штогод наведваюць яны месца, дзе нарадзілася Сонца, каб яно не пагасла.

## Пад адным сонцам

Называюць яго Маракамэ, а Маракамэ гэта чалавек, які мае развітыя веды, умее лячыць, ведае як аздараўляць і менавіта ён мае берагчы традыцыю продкаў. Гэта ўсё няпростае. Патрэбны час, падрыхтоўка і ініцыяцыя.

— Культура віксарытары [так сябе называюць Уічолі — рэд.] жывая. Усё, што робім, робім для продкаў, бацькоў. Тут патрэбныя Маракамэ, якія займаюцца кантактам з прошласцю і продкамі, а гэтыя пакінулі нам нашы традыцыі, каб мы маглі імі жыць і праз іх дзейнічаць, — тлумачыў Маракамэ.

Штогод племя Уічолі паломнічае на Вірыкуту, іх святое месца, дзе расце важная ў іх культуры расліна пейотль, якую выкарыстоўваюць у час рэлігійных рытуалаў. Эксперыментаваў з ёю Віткевіч, які намаляваў шмат карцін пад уплывам гэтай расліны. Гэта апошняя з дахрысціянскіх культур у Лацінскай Амерыцы. Не перашкодзілі ім у рэлігійных практыках ні канкістадоры, ні французы, навукі якіх для ўічолі былі неўспрымальныя. Сёння канадскае прадпрыемства плануе на святых землях племені ўічолі здабываць серабро, хаця ўжо з 1994 года існуе тут рэзервацыя, якая мае абараняць святое месца Вірыкуту, а таксама рэдкія віды раслін і жывёл. Калі прэзідэнт Мексікі будзе працягваць палітыку падтрымкі для інвестыцыі канадскай кампаніі, святыя горы Вірыкута перастануць існаваць. Горы на якіх нарадзілася Сонца.

— Мы раскінутыя па розных месцах. Жывём у пяці штатах, таму нам трэба аб'ядноўваць свае сілы, давесці да дыялогу між намі. Калісьці мы рабілі гэта самі, але зараз маем дзяцей, якія патрабуюць іншых сродкаў. Пасылаем іх на ўніверсітэты, каб яны разумелі нашу культуру і абаранялі яе ў свеце. Зараз аб'ядноўваемся з іншымі прадстаўнікамі культуры, каб абараняць нашу планету. Не толькі нам дзеецца крыўда. Я падарожнічаю па многіх краінах. Падобныя праблемы ў Індыі, Эквадоры... Ідзе пра гэта, каб мы самі патрапілі сабе ўзаемна дапамагаць, каб узаемна ўзмацняцца, і дзяліцца сваёй культурай, каб адчуваць сябе мацнейшымі.

Індзейцы ўічолі адчуваюць мінеральнае багацце сваёй зямлі. Як гаворыць Маракамэ, адчуваюць яе энергетыку.

— Бачу ў сваіх снах, што калі будзе знішчана Вірыкута, наша святая зямля і гара, тады наступіць вялікая змена. Звярніце ўвагу колькі зараз адбываецца экалагічных катастроф. Гэта час неспакою. Наша планета нервуецца. Гэта адзін вялікі арганізм, якога мы з'яўляемся часткай. Наша задача — гармонія, таму першага лістапада буду ў Канадзе размаўляць аб ахове прыроды і традыцыі карэнных культур. Усе народы маюць свае традыцыі, свае вераванні, але мы ўсе пад адным сонцам. Таму нам трэба аб'ядноўвацца, каб бараніць нашу планету.

## Знішчэнне святых месцаў, гэта знішчэнне памяці і кантакту з продкамі

Племя Уічолі жыве ў гарах Сьера-Мадрэ ў Мексіцы ад 3,5 тысячы гадоў і налічвае каля 35 тысяч чалавек. Яны з'яўляюцца прыкладам непарыўнай сувязі паміж чалавекам і прыродай. Асноўнай часткай іх касмагоніі і ідэнтычнасці з'яўляецца паломніцтва ў іхнюю святую зямлю.

— Паломніцтва на святую гару гэта вяртанне да часоў, калі нараджаўся свет і гэтая зямля. Паломнічаем у месца, дзе з'явілася Сонца. Пейотль адкрывае нам зразуменне, — тлумачыў у час сустрэчы Маракамэ. — Мы заходзім на месца, якое было адкрытае багамі і адначасова нашымі прапрапрапродкамі. Увауходзячы на гару, мы ўзрастаем як дзеці і можам дакрануцца да неба. Пік гары з'яўляецца для нас найбольшай святыняй. Там мяняемся ў вучняў, там вучымся як жыць — гэта наш універсітэт.

З залы прагучала пытанне ці можна далучыцца да паломнікаў у Вірыкуту.

—Так, можна, — адказаў госць. — Мы паломнічаем на святую гару так як нашы продкі. І той чалавек, які калісьці там згарэў і памяняўся ў Бацьку-Сонца, можна сказаць, што ён памёр, але для нас ён жыве. Маем з ім кантакт праз сны, праз медыцыну і мы можам таксама яго пабачыць на небе. Кожны пілігрым, кожны з нас выходзіць з дому і ідзе ў месцы, якія для нас важныя. Беражыце гэтыя месцы. Можаш ісці з намі, але можаш проста пайсці ў месцы, у якія хадзілі твае продкі, у месца, якое продкі блаславілі і гэта можа быць падарожжа, якое цябе ўзмоцніць, памяняе. Кожны паломнічае ў важныя месцы. Усе горы, на якія ўваходзім, важныя. Тады адчуваем, што набліжаемся да неба, расцём. Гэта робім таксама для таго, каб узмацняць нашу традыцыю.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Карціны Марка Сапёлкі

1 мая гэтага года ў галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі выстаўку карцін мастака Марка Сапёлкі, ураджэнца Нараўкі. Экспазіцыя цікавая і багатая, займае яна ўвесь зал. Выстаўку адкрыла кіраўнічка галерэі Кася Бяляўская, якая прывітала зацікаўленых мастацтвам асоб і цікава распавяла пра жыццё і творчасць мастака-жывапісца. Выстаўку наведалі жыхары, між іншым, Нараўкі, Гайнаўкі, Новага Ляўкова, Лешукоў, Плянты і Тарнопаля.



Марк Сапёлка перш-наперш мастак-пейзажыст і ахвотна малюе захаваныя да нашых дзён драўляныя хаты і іншыя архітэктурныя аб'екты. Намаляваў рэкі Нарву і Нараўку, некаторыя вёскі ды самыя прыгожыя закуткі Нараўшчыны ў розныя поры года. Ёсць і пейзажы, а як жа, Белавежскай пушчы, жнівеньскіх палёў і надрэчных лугоў. Карціны ўсім спадабаліся.

Варта дадаць, што некаторыя карціны Марка Сапёлкі былі завезены ў гарачую Афрыку і там пейзажы нашай белавежскай зімы ўспрымаюцца з зацікаўленнем і са здзіўленнем, што недзе там у лясных ваколіцах у Польшчы ляжыць столькі белага (а яшчэ, каб ведалі, халоднага) пуху.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

## У крузе Браніцкіх

10 мая ў беластоцкай ратушы была адкрыта выстава, прысвечаная роду Браніцкіх. Гэты род асабліва заслужаны для Беластока ды навакольных мясцовасцей — Бельска, Харошчы, Тыкоціна. Выстава зладжана з нагоды 70-годдзя Падляшскага музея, заснаванага ў 1949 годзе. На выставе паказаны партрэты не толькі Ізабелы і Яна Клеменса Браніцкіх, але і тых родаў, з якімі былі яны павязаны сямейнымі вузламі: Сапегі, Радзівілы, Чартарыйскія, Патоцкія... Сама Ізабела, варта нагадаць, была сястрой апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Карціны на выставе паходзяць з музеяў Кракава, Варшавы, Познані, Пярэмышля, Казлоўкі, з мясцовых фондаў ды з касцёла ў Тыкоціне. Два вялікафарматныя партрэты Ізабелы і Яна Клеменса з тыкоцінскага касцёла паказваюцца ўпершыню па-за яго сценамі. Выстава будзе працаваць да 8 верасня г.г. **(ав)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Хачу звязаць жыццё з песняй!



**Зорка:** — *Наталька, сьпяваеш песню з прыпевам: я тут свая, мяне ўсе любяць. Ці ў Тапалянах, дзе жывеш, так сябе адчуваеш?*

**Наталля Алексяюк:** — Так, у Тапалянах я адчуваю сябе вельмі добра і песня, якую спяваю, можна сказаць, пра мяне.

**Зорка:** — *Памятаю Цябе як салістку ў часы Твайго дзяцінства. Колькі часу ўжо спяваеш і выступаеш на сцэне?*

**Н.А.:** — З сямі гадоў, так што будзе ўжо дзевяць гадоў. Вось, так.

**Зорка:** — *Ты вывучаеш музыку пад бокам спевакоў з гурта «Прымакі», а сёння падрыхтавала Цябе спадарыня Багуся. Можна сказаць, што ў Цябе прафесійны падыход да сцэны. Усё дапрацавана ў дэталях, разам з густоўнай аўтапрэзентацыяй і трапнай падборкай песень. Ці можа думаеш звязаць сваю будучыню з музыкай?*

**Н.А.:** — У гэтым годзе хачу паступіць у музычную школу на вакалістыку. І як удасца, хачу сваю будучыню звязаць са спевам.

**Зорка:** — *А ці апрача сцэны, маеш нагоду спяваць, напрыклад, за сямейным сталом?*

**Н.А.:** — Так.

**Зорка:** — *Скажы нешта больш.*

**Н.А.:** — У нашай сям'і ўсе ахвотна спяваем. Я люблю спяваць з сястрой і братам. Яны можа менш чым я прысвячаюць часу песні, але ўсе любяць спяваць.

**Зорка:** — Ты — дачка бацюшкі, так што напэўна спяваеце яшчэ ў царкве.

**Н.А.:** — Так, так.

**Зорка:** — *Наталька, Ты хіба больш любіш спяваць, як гаварыць. Тваё выступленне вельмі мне спадабалася, яно прагучала чыста і натхняльна. Ну і размаўляеш добра па-беларуску, і разумееш змест песень, якія спяваеш. Зычу, каб споўніліся Твае мары і планы.*

**Н.А.:** — Дзякую!

**Фота: Ганны Кандрацюк**

## УВАГА КОНКУРС! № 21-19

**Вышэй аблокаў чырвоная птушка лятае.** (С....)

**Загадкі з роднай хаткі**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 9 чэрвеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адаз на загадку № 17: гняздо. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Марцін Галёнка, Кацпэр Каліноўскі, Томэк Ваўранюк з Нарвы, Вікторыя Стэмпа з Бельскай ПШ № 3, Мацей Дзерманоўскі, Кася Радэль з Залук. Віншуем!**

(*Беларуская народная легенда*)

## Адкуль мошкі, камары і ўсякае паскудства?

Ці ведаеце, як з'явіліся на свеце мошкі, камары і ўсякае паскудства? Калі Бог тварыў звяроў і птушак, дык за кустом схаваўся нячысцік, навастрыў вушы і цікаваў. Што тут адбываецца? Дзіва нейкае!

Сапраўды, ён убачыў дзіва.

Бог узяў жменю пяску, кінуў на вецер і сказаў:

— Ляціце, усякія птушкі!

І птушкі паляцелі. Пачалі чырыкаць і напаўняць паветра песнямі.

Пазайздросціў чорт і рашыў параўняцца з Богам.

Узяў ён жменю пяску, шыбануў яго ўгару і на адным дыху ляпнуў:

— Ну — ляціце, ляціце!

А хто мае ляцець, забыўся сказаць.

І вось як сыпнуць камары, мошка і ўсякае паскудства! І ліпнуць усе да свайго таткі, кусаюць, джаляць яго, співаюць кроў!.. Ускіпеў нячысцік, бегаў-бегаў, скакаў-скакаў, а рой за ім следам. Бачыць рагаты — няма выхаду, трэба абавязкова кудысьці схавацца. Ён разагнаўся і баўтануў у смярдзючую калюгу. А камары і мошкі прыселі на берагу, пільнуюць — калі ён выйдзе з вады наверх...

Вось таму камары і мошкі ды ўсякая жамярва заўсёды ля вады імчыць і ўецца.

** Легенда запісана этнографам Сержпутоўскім у вёсцы Бучча на Случчыне ад Грышкі Бондара. Сучасная апрацоўка ГК.*

Алег Мінкін

## Чэрвень

Змарыўся несці ношку лета
Чырвоны Чэрвень-чараўнік,
Прысеў пад ліпай і да флейты
Губамі млявымі прынік.

Дрыжыць пялёстачак рамонка
На вейках зморжаных вачэй,
Струменьчыкам мядовым тонкім
Павольна музыка цячэ.

Цячэ — і сонным ліпам сніцца
Руплівых пчол гудлівы хор,
І сонца спелаю суніцай
У стоме хіліцца за бор.

# Навучыцца прыгожа, талкова гаварыць!

— Мае вучні пытаюць пра гэты конкурс ужо ў пачатку года, — кажа настаўніца Ніна Абрамюк, — так што не трэба нікога намаўляць, прасіць. Яны самі горнуцца, хочуць выступіць.

У гэты раз з Нарвы прыехала прыгожая кампанія дэкламатараў: Марк і Уладзік Кутузавы, Карнела Вшэбароўская, Эмілька Смактуновіч, Аліўка Рэпка, Аліўка Порац. Гаварылі яны вершы на беларускай, польскай ды рускай мовах. І ўсе апраўдалі свой прыезд. Нават калі малодшых з'ядала ўсхваляванасць, настаўніца Тамара Бількевіч супакойвала іх добрым, ласкавым словам. Нарва падарыла публіцы найпрыгажэйшыя выступленні на беларускай мове: вершы «Вялікдзень», «Успомні пра Бога», «Хрыстос нованароджаны» !

У час конкурсу мы прыкмецілі адну залежнасць: калі ў школе мова на прыстойным узроўні, тады дзеці вылучаюцца сярод аднагодкаў. У іх дбайнае вымаўленне, добрае адчуванне слова, шчырасць. Самі бацькі не ў змозе дапільнаваць парадак у націсках, вымаўленне, знакі прыпынку. Хіба, што гутарка пра творы на польскай ці рускай мовах. У апошнім выпадку вылучыліся дзеці, якія нарадзіліся ў Расіі, Беларусі ці Украіне.

— А не было такога, каб вучні гаварылі адны і тыя ж самыя вершы, што і на «Родным слове»? — тады ёсць шанс даўжэй рыхтавацца, удасканаліць твор.

— Усе вершы падрыхтаваны выключна на Конкурс рэлігійнай паэзіі, — пярэчаць нарваўскія настаўніцы. — Тут ніхто не пайшоў напрасткі, не схітрыўся...

Сапраўды, іх сумленны падыход адлюстравалі выступленні. Яшчэ сёння ў вушах гучыць той шчыры энтузіязм, з якім Уладзік Кутузаў на прыгожай беларушчыне абвяшчаў добрую навіну ў вершы «Хрыстос нованароджаны!». Не падвяла і Оля Зінкевіч з Бельска-Падляшскага, якая з адчуваннем прадэкламавала рэфлексіўна-філасофскі твор «Ён ідзе». Сярод старэйшых выканаўцаў вельмі файна выступіў Кацпэр Нарэўскі з дасціпным вершам «Aniele, stróżu mój». У ім хітрыя думкі вучняў, якія не падрыхтаваліся да ўрокаў. Тады ў гарачцы клічуць дапамогі ў анёла-ахоўніка і абяцаюць яму палепшыць сваe паводзіны. Кацпэр спадабаўся гаспадыні Праваслаўнага цэнтра культуры:

— Ён лёгка і дасціпна сказаў пра важныя справы, — кажа спадарыня Магдалена Жданук, — ён рассмяшыў і даказаў, што без рэлігіі і малітвы цяжка ў жыцці. Усе дэкламатары малайцы! Я гляджу на іх у захапленні і адчуваю цеплыню ў сэрцы. Цешыць ангажаванасць бацькоў, настаўнікаў.



Уладзік Кутузаў


Оля Зінкевіч


Хор з беластоцкай царквы Уваскрасенія


Патрыцыя Пех

XV Конкурс рэлігійнай паэзіі пачаўся з радаснай пасхальнай песні з прыпевам:

*Хрыстос Уваскрос!*

*Хрыстос Уваскрос!*

*Усё ён перамог,*

*І ў дзіўнай яснаце,*

*У неба нас вядзе.*

Пасхальны твор на беларускай мове цудоўна выканаў дзіцячы хор беластоцкай парафіі Уваскрэсення Гасподняга пад кірункам матушкі Марыі Раманчук. Парадавала таксама вучаніца беластоцкай ПШ № 5 Патрыцыя Пех. Пра гэтую дзяўчынку пісалі мы ў пачатку года. Зараз галасістая Патрыцыя на радасць гасцей і бацькоў праспявала вядомы шэдэўр «Мой родны кут».

Пішам пра беларускія выступленні, бо яны наклікалі найбольшыя эмоцыі і парадавалі акуратнасцю. Тут усё атрымалася дбайна, на ўзроўні, прыгожа. Ды ўсе, хто пастараўся, былі належым чынам ацэнены. А ў сувязі з юбілеем удзельнікаў і бацькоў чакаў салодкі пачастунак. Былі таксама словы задумы і гутарка пра адукацыйныя каштоўнасці:

— У жыцці прыйдзецца вам выступаць перад важнымі людзьмі, будзеце іх схіляць да сябе. А выйсці да людзей і талкова, прыгожа нешта сказаць — не так проста. Гэта вялікая справа. Гэтаму ўсяму трэба навучыцца, — гаварыў айцец Мірослаў Хіліманюк, візітатар па навучанні праваслаўнай рэлігіі. Ён адзначыў, што разам з матэматыкай, хіміяй трэба вывучаць гуманітарныя прадметы, якія спрыяюць духоваму развіццю чалавека. Конкурс рэлігійнай паэзіі дае такія магчымасці.

Бацюшка Міраслаў шчыра падзякаваў катэхетам за вялікую працу. Асабліва дзякаваў ён спадарыні Лене Добаш, настаўніцы рэлігіі ў ПШ № 5, якая прыдумала ідэю конкурсу і цягам пятнаццаці гадоў напаўняе яе прыгожым, добрым зместам. Ну, вытрымлівае ўсё гэта. Мы таксама далучаемся да юбілейных пажаданняў і жадаем арганізатарам: Многая лета!

**Зорка**

Фота: Ганна Кандрацюк

## Польска-беларуская крыжаванка № 21-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 17-2019:**

Зрыў, бум, шмотка, лён, Оля, нядзеля, птах, аванс, акно, сон. Спеў, звон, шлях, мёд, бонза, кут, Ева, школа, Алян, як, сын.

Узнагароды, **наклейкі**, выйгралі **Міхась Тапалянскі, Вікторыя Якімюк, Марцін Галёнка, Аліўка Порац** з Нарвы, **Наталля Косцік, Патрыцыя Нявінская, Дар'я Несцярук, Матэвуш Сямёнчык** з Орлі, **Алівія Сноп**, **Аляксандра Весялкоўская**, **Давід Бура** з бельскай «тройкі», **Клаўдзія Голубоўская** з Нараўкі. Віншуем!



Лёс беларусаў Беласточчыны

# Якім Фесяк і яго сям'я

Пра беларуса Якіма Фесяка з вёскі Зачарляны я даведаўся ад яго ўнука Вацлава Залеўскага, які жыве ў вёсцы Хвінявічы на Дзятлаўшчыне. Вёска гэта знаходзіцца за 10 кіламетраў на паўночны захад ад Дзятлава і 138 кіламетраў ад Гродна.

Вацлаў Залеўскі жыве з жонкаю ў вялікім цагляным доме. Яму 71 год. Усё жыццё ў яго было звязана з сельскай гаспадаркай, працаваў нават дырэктарам саўгаса і старшынёй мясцовага калгаса „Парэчча". „У 1980-х гадах мая гаспадарка намалочвала за сезон 8 тысяч тон збожжа, а цяпер два калгасы ледзь-ледзь намалочваюць каля 3,5 тысячы тон. Амаль цалкам за апошнія гады знішчана сельская гаспадарка на Беларусі", — настальгічна ўздыхае Вацлаў Браніслававіч.

Цяпер Вацлаў Залеўскі нідзе не працуе, бо пенсіянер. Ён займаецца сваім прыватным агародам. Хоць на вуліцы пачатак траўня і яшчэ даволі холадна, а ў Залеўскіх ужо выраслі цыбуля, радыска, на градках паказваецца бульба.

— Як гэта ў вас атрымліваецца, што ўсё ўжо расце, хаця ў суседзяў на градках пуста пакуль? — пытаюся ў вяскоўца.

— Я вельмі люблю аграномію, усё жыццё ёй займаўся і цяпер эксперыментую на градках. Ключом да вялікага і добрага ўраджаю з'яўляецца амагнічаная вада. Праз магніты лью звычайную ваду і потым яе прымяняю на градках, паліваю агарод, рыхтую розныя кампосты і г.д. Ураджай павялічваецца на 20 працэнтаў, — распавядае спадар Залеўскі.

Сапраўды, Вацлаў Залеўскі — вясковы эксперыментатар і вынаходнік. Дае парады па арганічным земляробстве, па садаводстве і агародніцтве, дзеліцца ўласным вопытам на старонках розных беларускіх выданняў. Часопісы і газеты іх з радасцю публікуюць.

Любоў да роднай зямлі ў яго, відаць, ад дзядулі з Беласточчыны Якіма Міхайлавіча Фесяка. Вацлаў Залеўскі пра яго даведаўся ад маці Соф'і Фесяк — дачкі Якіма Фесяка.

Дваццаць пяць гадоў Якім Фесяк адслужыў у расійскім войску. За гэта яго Расійская дзяржава ўзнагародзіла кавалкам зямлі ў вёсцы Зачарляны на Беласточчыне. Там ён і жыў. Жаніўся з вясковай дзяўчынай Ганнай Пятроўнай Грыц. Пасля службы Якім Фесяк працаваў у Беластоку ў пансіянаце шляхетных дзяўчат, а потым на ўласнай зямлі і гаспадарцы.

У сям'і Якіма і Ганны Фесякоў у Зачарлянах нарадзіліся дачка Соф'я і сын Анатоль. Беларусы ў Зачарлянах мелі свой дом, карову, каня, курэй, свіней — адным словам усё, што ў той час трымалі вясковыя людзі, якія любілі працаваць.

Пасля вайны, па словах унука Фесякоў Вацлава Залеўскага, да іх у дом сталі часта наведвацца мясцовыя польскія банды, якія патрабавалі пераходзіць у каталіцкую веру. А Якім Фесяк з жонкай Ганнай былі праваслаўнымі, даволі веруючымі людзьмі і гэтага рабіць не жадалі. Тады бандыты далі ім тэрмін пакінуць тэрыторыю Беласточчыны і ехаць на Усход.

Пакідаць роднае гняздо Фесякі не жадалі, але іншага выхаду не было. Таму ў траўні 1947 года разам з некаторымі іншымі сем'ямі з Зачарлянаў яны пакінулі родную вёску і прыехалі на станцыю Наваельня на Дзятлаўшчыну. Згодна складзенага акта ад 26 траўня 1947 года Фесякі ў Зачарлянах пакінулі адзін драўляны дом плошчай у 135 квадратных метраў, пакрыты чарапіцай і пабудаваны ў 1932 годзе. Ён тады быў ацэнены ў 4000 рублёў. Пакінулі Фесякі і гумно 486 кубаметраў, саламянае, якое было пабудавана ў 1930 годзе, коштам 4400 рублёў. На радзіме засталіся хлеў памерам 270 кубаметраў, пабудаваны ў 1930 годзе, саламяны, коштам 2400 рублёў, студня, коштам 928 рублёў, плот. Уся пакінутая маёмасць Фесякоў па тым часе была ацэнена ў суму 11 728 рублёў. Акрамя маёмасці беларусы пакінулі на Беласточчыне 3,10 гектара зямлі, у тым ліку 0,5 гектара пшаніцы.


Якім Фесяк у расійскім войску, пачатак XX ст.


Вяселле Якіма Фесяка і Ганны Грыц у Зачарлянах, пачатак 1920-х гадоў

На Дзятлаўшчыне Фесякам далі маёмасць Пятра Гноцкага, які выехаў у Польшчу. Гэта былі кладоўка, хлеў, гумно і невялікі дом. А таксама выплацілі кампенсацыю на суму 7238 рублёў.

На Дзятлаўшчыне пачалося новае жыццё. Дачка Соф'я хутка выйшла замуж за мясцовага хлопца Браніслава Залеўскага. Усё жыццё адпрацавала на розных калгасных работах, шмат гадоў была даяркай... А сына Анатоля праз год забралі ў савецкую армію. У Вацлава Залеўскага захаваўся ліст ад дзядзькі Анатоля, дзе ён піша, што забралі ў армію, але спачатку адправілі вучыцца ў ФЗА (фабрычна-завадскую школу адукацыі). У ФЗА накіравалі ўсіх прызыўнікоў з Баранавіцкай вобласці. Там хлопцаў тры месяцы вучылі працаваць у шахтах. А пасля вучобы юнакі не служылі, паколькі перавялі іх на шахцёрскую працу.


Вучні і настаўнікі Зачарлянскай школы. Здымак 1930-х гадоў


Odpis skróconу aktu urodzenia


СПРАВКА

Даведка, выдадзеная Якіму Фесяку, што ён эвакуіруецца з Беласточчыны


Фотаздымак Ганны Фесяк на нямецкі дакумент, 1942-1943 года

Унук Якіма Фесяка Вацлаў Залеўскі распавядае пра сваё жыццё, май, 2019 г.

За гады службы ў шахтах некаторыя хлопцы не вярнуліся дамоў, бо ад цяжкае працы памерлі, іншыя там засталіся жыць, а тыя, хто вярнуўся дамоў, ужо не мелі здароўя. Тое самае здарылася і з Анатолем Фесяком, які пасля дэмабілізацыі, хутка памёр.

На Дзятлаўшчыне Фесякі пачалі жыць па-новаму. Разам з імі з Зачарлянаў прыехалі іншыя сем'і. Стараліся адзін аднаго падтрымліваць, дапамагаць. Па словах Вацлава Залеўскага, сям'я яго дзеда па маці Якіма Фесяка з сабой прывезла каня, а таксама карову нейкай нямецкай пароды. Усе вяскоўцы вельмі жадалі мець цялушку ад гэтай каровы, бо яна шмат давала малака. А конік быў невысокі, але працавіты.

— Ці ўсе сваякі Фесякоў пакінулі Беласточчыну? — пытаюся ў спадара Залеўскага.

— Ды не. Тыя, хто жыў у вёсках і пасёлках бліжэй да Беластока, тыя засталіся там. Бо бандыты ў такія населеныя пункты, якія былі бліжэй да горада, наведваць баяліся. Таму шмат сваякоў па мамінай радні не выехала. У Парослах цяпер жыве маміна стрыечная сястра Раіса Дзякоўская, шмат іншых нашых сваякоў ёсць у Польшчы. Раней мы іх наведвалі, перапісваліся, — сказаў Вацлаў Залеўскі...

Калі мы выйшлі з хаты на двор, Вацлаў Браніслававіч паказаў мне свой агарод і невялікую эксперыментальную бочачку з магнітамі, праз якую ён фільтруе ваду. А таксама пачаставаў радыскай і свежай цыбуляй. „Зробіце дома салат са смятанай. Гэта экалагічна чыстая агародніна", — запэўніў вясковец. І мы развіталіся...

Сяргей ЧЫГРЫН

Фотаздымкі друкуюцца ўпершыню



# XVI Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росе»

Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росе» былі арганізаваны Музеем малой айчыны ў Студзіводах на аснове Міжнароднага фестывалю «Там по маёвуй росе», які адбываўся ў Студзіводскім музеі. У час фестывалю прэзентаваліся народныя калектывы з Падляшша і Палесся, запісваліся фальклорныя песні, танцы і абрады, якіх частка выкарыстоўваецца цяпер падчас Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі. Іх удзельнікі наведваюць нашы вёскі ў Бельскім, Гайнаўскім, Сямятыцкім і Беластоцкім паветах і выступаюць перад мясцовымі жыхарамі ў абставінах, у якіх народны фальклор прэзентавалі нашы продкі.

XVI Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росе» пачаліся ў пятніцу 3 мая ў Тапільцы каля Беластока. У наступны суботні дзень працягваліся ў Кожыне, Козліках, Гародчыне, Ляхах і Ступніках, а ў нядзелю перабраліся намнога далей на поўдзень у Мядзвежыкі, Рагачы і Левашы, дзе, між іншым, удзельнікі сустрэч тапілі Рагульку і запрэзентавалі багаты двухдзённы вясельны абрад. У Дашах 6 мая, у дзень Юрыя Пераможцы, на палетку жыта аднаго з гаспадароў быў паказаны Юр'еўскі абрад, з малітвамі і фальклорнымі традыцыямі. Спатканні ў традыцыі «Там по маёвуй росе» закончыліся ў Рыгораўцах, дзе, між іншым, прэзентаваліся старыя фатаграфіі. У названых вёсках, прыпынках сустрэч, іх удзельнікі вадзілі велікодныя карагоды, спявалі агулькі, якія ў некаторых месцах называліся рагулькамі, паказвалі даўнія танцы і іншыя народныя традыцыі. У цэлым удзельнікі сустрэч запрэзентавалі спосаб адпачынку моладзі ў мінулым у вельмі радасны велікодны перыяд, калі вясной прырода раскрывае сваю прыгажосць.

У дзень велікамучаніка Юрыя Пераможцы праваслаўныя жыхары Беласточчыны маліліся ў сваіх прыхадскіх цэрквах. У Дашах пасля абеду ўдзельнікі сустрэч, спяваючы веснавыя песні, пайшлі на поле Марка Мартыновіча, дзе расло жыта. Народныя калектывы з Беларусі — «Варган» з Полацка, «Царабяначка» з Церабня, «Хацiславяне» і «Вясковая табала» з Хацiслава, асобы з Дзятлавіч і Санкт-Пецярбурга, студзіводская «Жэмэрва» і жыхары Дашоў затрымаліся спачатку каля панадворка Ніны Мартыновіч, якой праспявалі веснавыя песні.

— Сёння перадапошні дзень XVI Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі «Там по маёвуй росе». У папярэднія дні мы спявалі агулькі і іншыя веснавыя песні, заспявалі валачобныя песні, а таксама вадзілі карагоды, што мы сёння таксама будзем рабіць у Дашах. Цяпер мы будзем абыходзіць жыта з іконай і караваем і маліцца за добры ўраджай. Гэта вельмі добрая адукацыя для моладзі. Прыехалі да нас маладыя госці з Беларусі і Расіі. Маладыя ўдзельнікі «Жэмэрвы» асабліва цікавяцца абрадамі нашых продкаў. У гэтым годзе так склалася, што Юрыя святкуем у пачатку другога тыдня велікоднага перыяду, калі мы яшчэ радуемся святкаванню Уваскрэсення Гасподняга, — сказаў Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах, арганізатара сустрэч.

На палетак жыта Марка Мартыновіча ўвайшлі сам гаспадар з іконай святога Юрыя і вышываным ручніком у руках, солтыс Дашоў Ірэна Маркевіч з караваем і ручніком, Дарафей Фіёнік і маладыя ўдзельнікі беларускіх народных калектываў. Усе яны абышлі палетак з малітвамі і песнямі. Пасля па разасланым на жыце ручніку качалі каравай, самі качаліся па жыце і выканалі іншыя цырыманіялы згодна з Юр'еўскім абрадам. Пазней усе частаваліся караваем і гасцявалі. На даязной асфальтавай дарозе дзяўчаты з Беларусі сталі танцаваць. Да іх далучыліся астатнія аматары гульняў.

— Мы тут радасна і цікава праводзім час, бо цікавіць нас даўні фальклор. Мы любім спяваць даўнія песні, вадзіць карагоды і паказваць нашы абрады, — сказалі члены «Жэмэрвы».

— У дзяцінстве я хадзіў з бацькам на поле. Тады ў нас, у Курашаве, захоўвалася яшчэ частка Юр'еўскага абраду. Вельмі добра, што гэты абрад прэзентуецца тут і жыхары нашага прыхода могуць паглядзець, як у мінулым дбалі пра ўраджай і звярталіся за дапамогай да святога Юрыя, — заявіў мітрафорны протаіерэй Павел Кананюк, настаяцель Свята-Мікалаеўскага прыхода ў Касьной, да якога належаць Дашы. — Юр'еўскі абрад з часам пачаў знікаць і добра, што цяпер Студзіводскі музей яго аднаўляе.

— Хадзіўшы па жыце мы маліліся святому Юрыю Пераможцу, неслі яго ікону, упрыгожаную народным ручніком, і каравай. Частка абраду са спевамі і танцамі выводзіцца з народнай традыцыі, — заявіла музычны кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік.

Юр'еўскі абрад быў дапаўненнем малітваў да велікамучаніка Юрыя, якія ўзносіліся ў час літургіі, у якой прынялі ўдзел члены калектываў і жыхары Дашоў. У царкве і на полі накіроўвалі яны свае прашэнні да святога велікамучаніка Юрыя Пераможцы, які лічыцца нябесным заступнікам земляробаў і жывёлаводаў. У Юр'еўскім абрадзе апрача спеваў і малітваў асаблівае значэнне маюць таксама каравай і асвячоныя рэшткі з велікоднага стала. Асвячоныя шкарлупінкі і косці нельга выкідваць са смеццем. З даўніх часоў закопвалі іх на полі ў час Юр'еўскага абраду, што мела ахоўваць збожжа ад бур і іншых стыхій прыроды. Качанне каравая па полі мела даваць стымул для добрага росту збожжа і багатага ўраджаю. У час святкавання Юрыя асвячонай вадой і з дапамогай асвячоных зёлак акрапляlі хлеў і жывёлу, якую пасля выганялі ў гэты дзень з дапамогай вербачак на луг. Найстарэйшыя жыхары нашых вёсак яшчэ трымаюцца гэтых традыцый, хаця часта яшчэ да свята выганяюць кароў на сакавітую траву. У Дашах не толькі вырошчваюць збожжа і садзяць бульбу, але яшчэ гадуюць кароў, а ў вёсцы працуе пункт скупкі малака.

На поле Марка Мартыновіча прыбылі дырэктар Гарадскога асяродка культуры, спорту і рэкрэацыі ў Кляшчэлях Малгажата Клімовіч з працаўніцай, паколькі святкаванне ў Дашах адбывалася ў супрацы з гэтым асяродкам. Дырэктар Малгажата Клімовіч пахваліла вельмі багаты Юр'еўскі абрад, які запрэзентавалі знатакі фальклору з Беласточчыны і замежныя госці. Побач студзіводскага гаспадара Дарафея Фіёніка, солтыса Дашоў Ірэны Маркевіч і гаспадара поля Марка Мартыновіча на розны спосаб уключыліся ў прэзентацыю абраду калектывы, якія наведвалі ўсе вёскі па маршруце сустрэч, дзе прэзентавалі неапрацаваны фальклор. Перш за ўсё Юр'еўскі абрад прэзентавала Студыя фальклору «Жэмэрва» са Студзіводаў, якой дапамагалі жыхары Дашоў, калектывы з Беларусі — з Хацiслава, Церабня, Дзятлавіч і Полацка ды студэнты з Санкт-Пецярбурга, якія прыехалі па запрашэнні Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— Каб дождж мачыў, жыта добра расло і каб збожжа радзіла, — жадалі гаспадару ўдзельнікі абраду.

Каб быў добры плён і дзяўчаты павыходзілі замуж, а хлопцы пажаніліся, маладыя людзі ў адпаведнасці з традыцыяй качаліся па збожжы. Асвячоны каравай павінен даць дадатковыя сілы тым, якія яго елі. У цяперашнім Юр'еўскім абрадзе пераважаюць хрысціянскія матывы. У Дашах маліліся Богу, каб дапамог у гаспадаранні і прасілі заступніцтва ў святога велікамучаніка Юрыя.

— Мы ўдала пачалі нашы XVI Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росе» 3 мая ў Тапільцы, распаложаным найдалей на поўнач, дзе ў Свята-Мікалаеўскім праваслаўным прыходзе вельмі актыўны святар і там святкавалі ў гонар мучаніка дзіцяткі Гаўрыіла. На наступны дзень пабывалі мы ў Кожыне, Козліках, Гародчыне, Ляхах і Ступніках, дзе нашы спевы і танцы добра ўспрымаліся мясцовымі жыхарамі. 5 мая пераехалі мы на поўдзень, у Мядзвежыкі, Рагачы і Левашы, дзе, між іншым, тапілі мы Рагульку. Паказалі мы там наша багатае вяселле, якое на першы дзень адбывалася ў хаце маладой, а на другі дзень мы пераехалі да маладога. Сёння мы ў Дашах святкуем дзень Юрыя Пераможцы, молімся велікамучаніку Георгію і паказваем наш абрад на жыце дашоўскага селяніна. Абышлі мы палетак жыта з малітвамі, згодна з нашымі традыцыямі. З намі ёсць Юры Каліна, рэжысёр фільма «Сейбіт» пра дзейнасць нашага музея ў Студзіводах, які здабыў многа ўзнагарод за гэты і іншыя фільмы. Мы павіншавалі Юрыя з днём яго ангела-ахоўніка і зараз пойдзем у Свята-Мікалаеўскую царкву, якая тут побач і адслужым там малебен да велікамучаніка Георгія і будзем прасіць заступніцтва для мясцовых гаспадароў і ўсіх нас. Пазней будзем хадзіць па Дашах і спяваць агулькі і іншыя веснавыя песні і весяліцца з танцамі, так як рабілі гэта ў іншых вёсках, якія мы наведвалі раней. Нашы спатканні ў традыцыі закончацца ў Рыгораўцах, дзе, між іншым, будуць паказвацца старыя фатаграфіі, — сказаў арганізатар спатканняў Дарафей Фіёнік.

Мерапрыемства ладзіцца ў супрацы з мясцовымі гмінными асяродкамі культуры, супольнасцямі вёсак, праваслаўнымі прыходамі ў Тапільцы, Касьной і Праваслаўным домам апекі ў Кожыне.

— Мы цешымся, што ладзяцца ў нас маёвыя сустрэчы ў традыцыі. Добра, што прыязджаюць да нас і спяваюць нам нашы даўнія песні і танцуюць па-даўняму. Цікава нам таксама паглядзець Юр'еўскі абрад. Калі б было цяплей, прыбыло б сюды намнога больш жыхароў вёскі. Ёсць яшчэ ў нас сяляне, якія вырошчваюць збожжа і гадуюць кароў. У мінулым земляробы звярталіся за дапамогай да святога Юрыя, — гаварылі жыхары Дашоў.

Госці з Беларусі сказалі, што ў іх абрады запісваюцца і ў будучыні можна будзе іх узнавіць.

— У вёсках, якія мы наведалі ў рамках сустрэч у традыцыі, прэзентавалі мы спосаб адпачынку маладых людзей у мінулым у вельмі радасны велікодны перыяд, калі веснавая прырода паказвае сваю прыгажосць. Цікава і весела было, калі тапілі мы Рагульку і весяліліся ў час вяселля, якое паказвалі, — заявіў Даніла Саўчук з «Жэмэрвы».

Сёлетнія XVI Падляшска-Палескія сустрэчы ў традыцыі «Там по маёвуй росе» былі цікавымі і захапілі жыхароў вёсак і асоб, якія прыехалі ў мясцовасці, што былі месцамі прыпынку сустрэч.



Народныя калектывы з Беларусі, Расіі і студзіводская «Жэмэрва» спявалі ў Дашах веснавыя песні

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

MINSK 2019
2nd EUROPEAN GAMES

# Еўрапейскія забегі з эстафетай «Полымя міру»

■ Перадача Агню факеланосцу ў Баранавічах

На адзін дзень, 17 траўня 2019 года, горад Баранавічы, асвечаны факелам «Полымя міру» стаў сталіцай II Еўрапейскіх гульняў. 7700 км — такі шлях пройдзе эстафета «Полымя міру» да стадыёна «Дынама» ў Мінску. Эстафета стартавала 3 траўня ў Рыме і прайшла па тэрыторыі Італіі, Славакіі, Славеніі, Венгрыі, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы і Беларусі. А 17 траўня агонь Еўрапейскіх гульняў прыбыў у горад Баранавічы.

Усяго Агонь II Еўрапейскіх гульняў неслі 450 факеланосцаў, 10 захавальнікаў агню, 100 валанцёраў. Зараз Агонь гэтых гульняў змогуць убачыць жыхары практычна ўсіх куткоў Беларусі. У Баранавічах удзельнікаў эстафеты «Полымя міру» вітаў старшыня гарвыканкама Юрый Грамакоўскі. Ён выказаў гонар за Брэсцкую вобласць, тэрыторыя якой адной з першых у рэспубліцы сустрэла Агонь II Еўрапейскіх гульняў.

Першай эстафету «Полымя міру» па вуліцах горада Баранавічы пранесла майстар спорту міжнароднага класа па плаванні, удзельніца XXX і XXXI Алімпійскіх гульняў, двухразовы сярэбраны прызёр чэмпіянату Еўропы 2012 і 2017 гадоў Юлія Хітрая. Факеланосцаў у гэты дзень сустракалі на тэрыторыі Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Адкрытага акцыянернага таварыства «558 Авіяцыйны рамонтны завод» і на тэрыторыі гарадскога музея чыгуначнай тэхнікі. У цэнтры горада жыхары мелі магчымасць сфатаграфавацца на памяць з гарэзлівым талісманам II Еўрапейскіх гульняў — лісянём Лесікам.

Сімвалічна, што ў гэты ж дзень пачалося святкаванне Дня горада «Баранавіцкая вясна-2019». Варта адзначыць, што 180-тысячны горад Баранавічы з'яўляецца пабрацімам 24 гарадоў свету, у тым ліку такіх польскіх гарадоў, як Гдыня (1993 г.), Бяла-Падляска (2001 г.), Суленцін (2009 г.). 148-я вясна ў Баранавічах на працягу двух дзён была адзначана ўшанаваннем уладальнікаў звання «Чалавек года», шэсцем «Памяць. Маладосць. Вясна», велафэстам «Баранавічы — тэрыторыя здароўя», спартыўнымі мерапрыемствамі і выступленнямі калектываў мастацкай самадзейнасці, фальклорных гуртоў горада. Вялікая праграма «Зорная ноч музеяў» была падрыхтавана краязнаўчым музеем горада.

**Пятро ЖЭБРАК**
Фота аўтара

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
ЗАСНАВАНА Ў 1946 ГОДЗЕ
ГІСТОРЫЯ | СЕНЬНЯ | АБВЕСТКІ | КАНТАКТ
Рады вітаць Вас!
http://zbvb.org.uk

Беларуская дыяспара ў Вялікабрытаніі была і застаецца адной з найбольш важкіх сярод суполак нашых суайчыннікаў у іншых краінах свету. Асабліва гэта вызначалася цягам тых дзесяцігоддзяў, калі Еўропа была падзелена „жалезнай заслонай" паміж краінамі сацыялізму і свабодным светам. Але і цяпер брытанскія беларусы зьбольшага не адрываюцца ад жыцця Бацькаўшчыны. Каб у гэтым упэўніцца, варта зазірнуць на іх сайт, які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://zbvb.org.uk.**

Шчыра кажучы, сайт Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ) выглядае даволі сціпла. Герб „Пагоня" ў левым верхнім вугле, назва сайта і выйсці на чатыры рубрыкі „Гісторыя", „Сёньня", „Абвесткі", „Кантакт". „Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі — адна з найстарэйшых беларускіх арганізацыяў на эміграцыі. Створанае ў 1946 годзе, ЗБВБ мае багатыя традыцыі й гісторыю, якая служыць увасабленьнем салідарнасьці беларусаў замежжа й шчырага клопату пра лёс Бацькаўшчыны. З часоў свайго заснаваньня арганізацыя арыентавалася на ідэалы 25 Сакавіка й бачыла Беларусь незалежнай дэмакратычнай дзяржавай у сям'і вольных народаў", — распавядаецца пра арганізацыю на галоўнай старонцы сайта. Там жа змешчаны тры фотаздымкі, якія, праўда, ні аб чым не распавядаюць наведвальніку сайта. На іх можна пабачыць нейкіх людзей, але ніякіх подпісаў побач няма.

Рубрыка „Гісторыя" таксама мае хібы. Так, першы тэкст у ёй паведамляе, што ў 2006 годзе Згуртаванне святкуе свае шасцідзясятыя ўгодкі. Ад 2006 года ўжо мінула 13 гадоў, але нават пра сямідзясятыя ўгодкі на сайце нічога не распавядаецца. Дадзеная рубрыка мае тры падрубрыкі: „Пачаткі арганізацыі", „Станаўленьне" і „Далейшая дзейнасць". У першых дзвюх ідзе не надта падрабязны расповед пра тое, як з'явілася Згуртаванне і як яно развівалася. І гэта ёсць, бадай, адным з найбольш цікавых тэкстаў на цэлым сайце. Пра „далейшую дзейнасць" сказана зусім нямнога, але падаюца вартыя ўвагі факты. Напрыклад пра тое, што ў 1954 годзе пры падтрымцы ЗБВБ было заснавана Англьска-Беларускае Таварыства (Anglo-Byelorussian Society), якое ставіла на мэце пашырэнне стасункаў паміж беларусамі і брытанцамі.

А вось рубрыка „Сёньня" змяшчае зусім мала інфармацыі. „На сёньня Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі перажывае пэрыяд зьмены пакаленьняў, калі на зьмену старое пасьляваеннае эміграцыі прыходзяць прадстаўнікі новае эміграцыйнае хвалі. Беларусы, якія належаць да новае беларускае эміграцыі, прыязджаюць у Вялікабрытанію дзеля навучаньня, працы альбо хаваючыся ад палітычнага ўціску на Бацькаўшчыне", — гаворыцца там. Сябры Згуртавання адзначаюць, што цяпер іх дзейнасць канцэнтруецца ў Лондане вакол Беларускага дома. Да абавязковых штогадовых мерапрыемстваў належаць святкаванне 25 Сакавіка, угодкі Слуцкага збройнага чыну ў кастрычніку/лістападзе ды рэгулярны штогадовы З'езд згуртавання. Пра святкаванні можна даведацца на старонцы „Абвесткі". А вось пра іншую дзейнасць арганізацыі больш-менш падрабязна распавядаецца толькі на старонцы ЗБВБ у Facebook.

Рубрыка „Кантакт" змяшчае звесткі аб тым, хто цяпер уваходзіць ва ўправу Згуртавання. Нейкіх тэлефонаў ці кантактаў у месенджарах там няма — толькі паштовы адрас і адрас электроннай пошты.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## 120 гадоў з дня нараджэння

# Міколы Чарнецкага

Беларускі педагог, публіцыст, палітычны дзеяч Мікола Чарнецкі нарадзіўся 22 траўня 1899 г. у вёсцы Малыя Азяранкі (Ваўкавыскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Лёс гэтага чалавека быў вельмі трагічным.

Вядома, што ў 1918 г. Мікола Чарнецкі скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Да 1921 г. знаходзіўся ў бежанстве ў Расіі, дзе загінула ўся яго сям'я. З 1923 года Чарнецкі навучаўся ў Празе, скончыў Пражскі ўніверсітэт са ступенню доктара філасофіі ў 1929 годзе. Адзін з сябраў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, у 1923-1929 гг. уваходзіў у Замежнае бюро БПСР у Празе. Уваходзіў у Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый. З гэтай арганізацыі выйшлі такія вядомыя беларускія дзеячы як Міхал Вітушка, Мікалай Шкялёнак, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч.

У 1929 г. Чарнецкі вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, працаваў настаўнікам беларускіх гімназій у Радашковічах і Клецку. Ён выкладаў гісторыю і геаграфію Беларусі. За свае шырокія веды хутка здабыў ад вучняў павагу. Чарнецкі не толькі дасканала ведаў свае прадметы, але быў знаўцам літаратуры і філасофіі. Акрамя польскай і беларускай моў, вольна валодаў чэшскаю, ведаў лацінь. Не застаўся незаўважаны і яго беларускі патрыятызм. Паміж сабою гімназісты не раз гаварылі: „Пан прафесар цалкам закаханы ў Беларусь". Гэта былі словы ўдзячнасці і пахвалы. Акрамя штодзённых заняткаў Чарнецкі кіраваў пасяджэннямі літаратурнага гуртка. На жаль, яго педагагічны талент не паспеў раскрыцца ў поўнай ступені. У 1931 г. улады Польшчы закрылі Клецкую гімназію. Праз год была ліквідавана настаўніцкая семінарыя ў Вільні, а яшчэ пазней — гімназія ў Навагрудку. У тых умовах Мікола Чарнецкі пераехаў у Вільню. Быў сябрам Беларускага навуковага таварыства, разам з аднадумцамі выдаваў грамадска-палітычны часопіс „Золак". Толькі пасля верасня 1939 г. зноў змог вярнуцца да настаўніцтва.

У 1939 г. Мікола Чарнецкі прызначаны савецкай уладаю дырэктарам школы ў Крынках. З 1940 г. — кіраўнік асветы Крынкаўскага раёна. Неўзабаве трапіў пад пераслед саветаў. Арыштаваны НКВД БССР, але ўцёк з-пад арышту. У час нямецкай акупацыі адмовіўся ад супрацы з гітлераўцамі, працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Беластоку, быў удзельнікам беларускага нацыянальнага падполля.

На пачатку студзеня 1944 г. узброеная група акаўцаў напала на дом сястры Міколы Чарнецкага і забрала настаўніка з сабой. Толькі праз некалькі тыдняў яго цела са слядамі жорсткіх катаванняў было знойдзена ў адной з вёсак непадалёк Беластока. Беларускага настаўніка пахавалі на беластоцкіх праваслаўных могілках. На таблічцы ўказана дата смерці: 19 студзеня 1944 г. Так загінуў адзін з найбольш таленавітых выкладчыкаў Клецкай беларускай гімназіі, якому не было нават 45 гадоў. Чалавек, пра якога сябры казалі: „Гэта быў камень, крышталь, цвёрды і непахісны ідэаліст, гатовы на ўсё, акрамя здрады дзеля кавалка хлеба".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



**На фота:** *Настаўнікі Клецкай беларускай гімназіі: дырэктар Рыгор Якубёнак, Мікола Чарнецкі, выкладчык хіміі і біялогіі Вячаслаў Арэнь, матэматык Мікалай Рудакевіч. Клецк, ліпень 1931 г.*

# Дарагія сябры БАСовішча

**Беларускае Аб’яднанне Студэнтаў: Робім БАСовішча апошні раз**

**30. выпуск Фестывалю Музыкі Маладой Беларусі БАСовішча будзе апошнім сарганізаваным Беларускім Аб’яднаннем Студэнтаў.**

Члены БАС-у, пасля многіх кансультацыяў з сябрамі Фестывалю з большым досведам, рашылі, што ў 2019 сарганізуюць апошні выпуск БАСовішча. Складаная фінансавая сітуацыя і, што за тым ідзе, адсутнасць магчымасці правесці мерапрыемства на высокім узроўні давяла Аб’яднанне да такога рашэння.

— Гэта не было лёгкае рашэнне — кажа Лідзія Пякарская, член Галоўнай управы БАС-у — Але трэба адвагі прызнацца самому сабе, што так будзе найлепш.

Усе члены Аб’яднання сардэчна дзякуюць за падтрымку на працягу 30 гадоў. Дзякуем усім папярэднім басаўцам, выступоўцам, журы Конкурсу Маладых Гуртоў, якія дапамаглі знайсці зоркі беларускай сцэны. Дзякуем усім, якія прыязджалі на БАСовішча і радаваліся тым, што спалучае палякаў і беларусаў.

На гэты момант, сёлета будзе апошні выпуск арганізаваны БАС-ам. — Чакаем аднак, што прынясе будучыня — дадае Лідзія Пякарская.

Просім дапамагчы нам пры апошнім, юбілейным Фестывалю музыкі маладой Беларусі БАСовішча **https://odpalprojekt.pl/p/XXX-BASowiszcza-2019**

Запрашаем 19-20 ліпеня 2019 — Гарадок, урочышча Барык! Да сустрэчы!

* * *

Беларускае Аб’яднанне Студэнтаў — арганізацыя, якая дзейнічае з 1981 г. і аб’ядноўвае студэнтаў беларускай меншасці ў Польшчы. З самых пачаткаў, члены хацелі пашыраць беларускую мову і культуру. Апрача БАСовішча, БАС арганізуе рэйды і Дзень Незалежнасці Беларусі.




Быць нам Разам! Звяртаемся да Вас з просьбай падтрымаць фінансава фестываль, які ад самага яго пачатку арганізуюць маладыя людзі з Беларускага аб’яднання студэнтаў. У гэтым годзе будзе ўжо 30 юбілейны Фестываль музыкі маладой Беларусі БАСовішча 2019, які пройдзе 19-20 ліпеня ў Гарадку каля Беластока. Кошты з году ў год растуць, а хочацца каб юбілейнае БАСовішча было незабыўным і якасным.

І Вы можаце дадаць сваю цаглінку да арганізацыі фестывалю прымаючы ўдзел ў адмысловым зборы **odpalprojekt.pl/p/XXX-BASowiszcza-2019**

Дзякуем за кожную дапамогу! Партнёрамі БАСовішча з’яўляюцца: Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Рэспублікі Польшча, Падляшская маршалкоўская ўправа, Беларускае Радыё Рацыя, а таксама — маем такое спадзяванне — і Вы.

БАСОВІШЧА
19-20.07.2019
ГАРАДОК, КАЛЯ БЕЛАСТОКА

* * *

Арганізатары фестывалю „Басовішча” звяртаюцца да ўсіх прыхільнікаў з просьбай пра дапамогу. Сродкі на арганізацыю юбілейнага 30-га фестывалю збіраюцца на платформе **odpalprojekt.pl**. Фестываль музыкі маладой Беларусі „Басовішча” традыцыйна арганізуе Беларускае аб’яднанне студэнтаў у супрацы з іншымі арганізацыямі. Кажа сябра Управы БАС-у, арганізатарка фестывалю Лідка Пякарская: — Каб арганізаваць нешта больш незвычайнае патрабуем больш фінансаў. Мы ўжо атрымалі фінансавую падтрымку з Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі ды іншых. Падумалі, што ўжо некалькі гадоў таму людзі хацелі нам дапамагчы таксама фінансава. Можа 30 фестываль будзе добрай нагодай, каб дапамагчы і паўдзельнічаць у арганізацыі „Басовішча”. Дзякую ўсім, хто дапамог і тым, хто збіраецца, а таксама заахвочваю нам дапамагчы.

Арганізатары плануюць сабраць дадаткова 15 тысяч злотых. Уся інфармацыя адносна збору сродкаў ёсць на старонцы фестывалю ў Фэйсбуку. „Басовішча” пройдзе 19-20 ліпеня ва ўрочышчы Барык, што каля Гарадка. Яшчэ да 6-га красавіка гурты і выканаўцы могуць падаваць заяўкі на ўдзел у конкурсным частцы фестывалю.

**Яна ЗАПОЛЬСКАЯ**,
Беларускае Радыё Рацыя

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. карцёжная гульня ў... Кембрыджы = 24 _ 11 _ 25 _ 22 _ 23 _;
2. бык, які хадзіў у ярме = 2 _ 12 _ 17 _;
3. можа быць прыродны, удушлівы, вухлапны = 10 _ 9 _ 1 _;
4. без агню не бывае = 19 _ 18 _ 13 _;
5. жонка Адама = 28 _ 26 _ 27 _;
6. злодзей ад дробных пакраж, ашуканец = 21 _ 14 _ 4 _ 5 _ 6 _;
7. Дзэ-дун = 15 _ 16 _ 20 _;
8. казачная злая баба = 3 _ 8 _ 7 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Азот, Берыя, герой, джаз, паз, пот, хаос, цынік.

Рашэнне: **Хто позна прыязджае, той косці абгрызае**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 26.05 — 01.06

**(22.03. — 20.04.)** Запрагнеш шыкоўнага. Пазбягай людзей, якія цябе нервуюць. Наведай сваякоў, з якімі даўно не бачыўся. Тваё адданне, спачуванне, якія акажаш іншым, могуць быць выкарыстаны супраць цябе. Ёсць асобы, якія сягаюць не па сваё, нягледзячы на крыўду іншых. Пільнуйся!

**(21.04. — 21.05.)** 30-31.05. добры час на доўгатэрміновыя інвестыцыі. Можаш парваць путы, якія цябе вяжуць, абмяжоўваюць. Урэшце адчуеш свабоду і незалежнасць. Ідэальныя дні на паездкі па-за месца жыхарства. Сяброўства лёгка можа пераняніцца ў каханне. Добры настрой і вера ў сябе цябе не пакінуць.

**(22.05.—22.06.)** Не стань ахвярай нерэалістычных чаканняў 28-30.05. Народжаныя ў другой дэкадзе няхай не ўваходзяць у раман з занятай асобай. 28-30.05. знаёмыя захочуць уцягнуць цябе ў свой канфлікт; не дайся. Сапраўдны вораг у прафесіі — не на вашай працы — інтрыгу задумае 28-30.05. Жарсная прага дамінацыі і брутальная шчырасць могуць пашкодзіць у тваёй пары. Прыдасца глыток культуры, добра было б выбрацца на нейкае пленэрна-культурнае мерапрыемства.

**(22.06. — 23.07.)** Марс дадасць агню вашым адносінам. Задзівіш усіх спрытам і прадпрымальнасцю. Пачуццё гумару, умеласць паразумецца з іншымі; аформіш кожную справу. Хтосьці, да каго ў цябе няма цікаўнасці, спрабуе цябе звесці; можаш спакойна пачаставаць яго чорнай поліўкай.

**(24.07. — 23.08.)** Лепш гэтыя дні правядзі дома або прынамсі адмоўся ад інтэнсіўнага кампанейскага жыцця. Больш карысці прынясуць сустрэчы ў вузкім коле сваякоў. Могуць паявіцца трывожныя прыкметы на целе — высыпка, дзіўны кашаль ці галавакружэнне — што б гэта не было, схадзі да лекара.

**(24.08. — 23.09.)** Наўкол заўзятасць, нechталерантнасць, грубая шчырасць. Балюча адчуеш канфлікт паміж прафесійнымі абавязкамі і сямейным жыццём. Будуць гаворкі пра тваё мінулае ў шырэйшым асяроддзі. Не паддавайся стрэсу. 28-30.05. можаш апынуцца ты і твае справы «на языках».

**(24.09. — 23.10.)** Поспехамі кагосьці з сям’і ці сяброў будзеш карыстацца 28-31.05. 28-31.05 запросяць цябе да важнай і ганаровай ролі на сямейнай імпрэзе. Захочацца зашалець, падурэць, успомніць маладосць, а нават дзяцінства, пераэыць захапляльную прыгоду. Раскручвайся на ўсю катушку! Пазмагайся за сваё! Трэба будзе радыкальна адцяцца ад таго, што перашкаджае дайсці да намечаных мэт.

**(24.10. — 22.11.)** Лёгка будзеш набываць веды. Але і тэндэнцыю да нячыстых прыёмаў! 28-31.05. маеш шанц пачаць усё нанова ў пачуццях. Падумай аб сабе, знайдзі час на касметолага, паляпшэнне свае красы. Урэшце паклапаціся аб свае справы. Твой прафесійны рэйтынг моцна ўзрасце. Асобам, што думаюць перасмыкнуцца праз жыццё, пакажаш, дзе зімуюць ракі.

**(23.11. — 22.12.)** Моцна пашырацца твае гарызонты. 28-30.05. хтось можна выцягнуць твае памылкі і кінуць на цябе фальшывыя абвінавачанні. Вельмі актывуюцца плеткары. Схоча намяшаць табе зайздроснік. У пачуццёвым жыцці можа паявіцца моцны сапернік, але справішся з ім, хоць не без гузакоў. Не прастудзіся; хутка дойдзеш да сябе на бабуліных сродках.

**(23.12. — 20.01.)** 28-31.05. гладка выбярэшся з нязручнай сітуацыі. Большыя патрабаванні і абавязкі. Шмат залежыць ад цябе. Твае магчымасці пашырацца. Будуць нагоды да любоўных хваляванняў. Можаш разлічваць на добрых знаёмых, якія раскрыюць табе вочы на нейкія справы, хоць не без тваёй злосці — пасля ім падтакнеш. Лепш прыпыні фінансавыя справы, чакай.

**(21.01. — 19.02.)** 26.05. пакажуцца табе новыя магчымасці. 29-31.05. можаш атрымаць доўгачаканыя грошы. Магчымыя падарожжы. Дзякуючы партнёру пераможаш усе цяжкасці, а вашы адносіны выправяцца. Не шалей у фінансах, бо можаш апынуцца ў сітуацыі без выйсця. На працы можаш уключыцца ў спрэчкі, якія будуць каштаваць цябе шмат нерваў. Варушыся, не сядзі.

**(20.02. — 21.03.)** Асцярожна з абяцаннямі 28-30.05., бо цябе з іх разлічаць. Амур запалюе асабліва на Рыб з трэцяй дэкады. Калі ў тваім сэрцы балючая рана, 28-31.05. можаш прабачыць і забыць, каб зноў кагось пакахаць. Змяні харчаванне і стыль жыцця. Каханне і танец падзейнічаюць на цябе як найлепшае лякарства і касметыка. Займайся толькі сваімі справамі. Старайся не зважаць на хандру і меланхолію, якія могуць да цябе дапасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Паміж Альп

Насупраць масіва Пілатус, у Люцэрне, на левабярэжжы Ройса перад яго ўліццём у Возера Чатырох Кантонаў, распаложана іншая люцэрнская гара — Гюч. А на ёй узведзены палац, які сваім выглядам нагадвае харомы з дзіцячых казак, напрыклад палац Гаргамеля з папулярнай у нас серыі пра смурфікаў.

Згадваючы пра Люцэрн, нельга прамінуць і найбольш вядомага швейцарскага брэнда — гадзінніка. Менавіта ў адной з веж сярэдневяковай гарадской крэпасці Люцэрна ўстаноўлены гадзіннік, які мае права біць гадзіны на мінуту раней за іншыя гарадскія гадзіннікі.

А ніжэй, на рацэ Ройс, іншая асаблівасць Люцэрна — драўляныя масты: Каплічны і Мякінны. Каплічны мост пабудаваны ў 1365 годзе і лічыцца найстарэйшым драўляным мостам у Еўропе. У XVII стагоддзі быў ён аздоблены карцінамі пісанымі на драўляных трохвугольных шчытках-шчыпцах, на якіх апіраўся дах моста. Мастак Ханс Вегман намаляваў 158 карцін, ілюструючых падзеі з гісторыі горада; карціны з эпохі контррэфармацыі ўслаўлялі касцельнае жыццё Люцэрна. Карціны фінансаваліся сем'ямі гараджан і былі аздоблены іх гербамі. У 1993 годзе здарыўся пажар моста, у выніку якога згарэла дзве трэці тае асаблівае галерэі; з сарака сямі карцін, якія ўдалося выратаваць, поўнасцю ўдалося рэстаўрыраваць толькі трыццаць.

Мякінны мост узяў сваю назву з таго, што з яго дазвалялася млынарам скідаць мякіну ў раку. Пад яго дахам таксама размаляваныя ў першай палове XVII стагоддзя мастаком Каспарам Меглінгерам шчыпцы, прысвечаныя тэме *Dance Macabre* — танцу смерці; з першапачатковых шасцідзесяці сямі захавалася да нашага часу сорак пяць. Карціны і тэксты да іх падкрэсліваюць тую праўду, што ніздзе няма месца, на якім адсутнічала б смерць і няма грамадскага саслоўя, да якога яна не мае доступу.

На правабярэжжы Ройса дамінуе храм з дзвюма „макаўкамі" на званіцах — гэта касцёл езуітаў, узведзены ў 1667 годзе. У сваіх пачатках быў гэта не толькі касцёл, але і школа, у якой у той час навучаўся кожны дзясяты жыхар горада! Скляпенне храма аздабляе роспіс сюжэта з жыцця святога Францыска Ксаверыя. Вікіпедыя: „Святы Францыск Ксаверый — хрысціянскі місіянер і сузаснавальнік Таварыства Ісуса (ордэна Езуітаў). Францыск Ксаверый родам з арыстакратычнай баскскай наварскай сям'і; нарадзіўся ў замку Хаўер (Навара, Іспанія) 7 красавіка 1506 года. Рымска-каталіцкая царква лічыць яго самым паспяховым місіянерам у гісторыі хрысціянства, якія перавярнуў у хрысціянства большую колькасць людзей, чым хто б там ні быў, за выключэннем, быць можа, апостала Паўла. 15 жніўня 1534 года ў капліцы Манмартра Ігнацій дэ Лаёла сумесна з Францыскам Ксаверыем, Пятром Фаберам, Дыега Лайнесам, Альфонсам Сальмеронам, Мікалаем Альфонсам Бабадыльля і Сімонам Радрыгесам прынеслі клятву прысвяціць свае жыцці Богу; гэта і стала заснаваннем Таварыства Ісуса. Францыск Ксаверый прысвяціў большую частку свайго жыцця місіі ў аддаленых краінах. У 1541 годзе Папа Павел III паслаў яго ў партугальскую ўсходнюю Індыю. Францыск Ксаверый пакінуў Лісабон 7 красавіка 1541 года, разам з двума іншымі езуітамі і новым віцэ-каралём Марцінам дэ Соўза, на борце „Сант'яга". Са жніўня гэтага года да сакавіка 1542 года ён знаходзіцца ў Мазамбіку, а 6 мая 1542 года прыбыў у Гоа, сталіцу партугальскай Індыі. Цэнтрам місіянерскай дзейнасці Францыска Ксаверыя ў першыя тры гады яго дзейнасці быў індыйскі горад Гоа, адкуль ён здзяйсняў шматлікія паездкі па паўднёвай Індыі і суседніх краінах. Францыск Ксаверый выканаў велізарную працу па распаўсюджванні хрысціянства ў краінах Азіі, і як арганізатар, і як першапраходзец. Ён знайшоў кампраміс са старажытнай царквой Святога Тамаша ў Індыі, і тым самым распрацаваў асновы місіянерскіх метадаў Таварыства Ісуса. Ён змешваў місію і палітыку, і, у прынцыпе, быў не супраць распаўсюджвання хрысціянства сілай. Ён валодаў якасцямі вялікага місіянера, быў харызматычнай асобай, меў велізарны лінгвістычны талент і заўсёды без перапынку рваўся наперад. Францыск Ксаверый памёр на востраве паблізу мацерыковага Кітая 2 снежня 1552 года, ва ўзросце 46 гадоў. Яго дзейнасць пакінула значны след у місіянерскай гісторыі Індыі, Японіі і Кітая, паказаўшы шлях для далейшых пакаленняў каталіцкіх місіянераў, не толькі езуітаў. Ён сам змог пабачыць шматлікія з вынікаў сваёй працы, але мэты, якія ён ставіў перад сабой, былі нашмат большымі. З прычыны таго, што Рымска-каталіцкая царква адказала на яго заклік, зразумеўшы важнасць таго, што ён рабіў, эфект ад яго высілкаў распаўсюдзіўся далёка за межы яго ўласнага ордэна. Шырокай цяперашняй распаўсюджанасцю ў свеце Каталіцкая царква, у значнай ступені, абавязана Францыску Ксаверыю". У 1654 годзе гарадскія ўлады Люцэрна аб'явілі Францыска Ксаверыя святым заступнікам горада, а дванаццаць гадоў пазней быў пакладзены краевугольны камень пад будову езуіцкага касцёла. Езуітаў улады Люцэрна паклікалі дзеля супрацьстаўлення ўплывам буйнеючай у Швейцарыі Рэфармацыі. Дзеля такой жа мэты езуіты з'явіліся і ў Беларусі...


Мякінны мост на Ройсе


Галоўны алтар езуіцкага касцёла


Стаянка веласіпедаў перад чыгуначным вакзалам Люцэрна

Вартая ўвагі яшчэ адна асаблівасць езуіцкага касцёла Люцэрна. Гэта бакавы алтар з рэліквіямі святога Мікалая з Флюэ. Гэта асаблівы святы, які не агнём і мячом, але мудрымі словамі суствaрыў сённяшнюю Швейцарыю... Святы жыў у XV стагоддзі. Паходзіў ён, як і ягоны больш вядомы цёзка з Мір-Лікійскіх, з заможнай сям'і. Нарадзіўся 21 сакавіка 1417 года ў глыбока рэлігійнай сям'і. У дваццаціаднагадовым узросце ўступіў у армію і ўдзельнічаў у некалькіх бітвах супраць аўстрыйскіх уладароў, праяўляючы ў іх гуманнае стаўленне да праціўнікаў. Ажаніўся ў дваццаціпяцігадовым узросце з набожнай паннай Даротай Віслінг; нарадзілася ім пяць дачок і пяць сыноў. Быў ён паважаным членам сваёй грамадскасці і яго выбіралі радным кантона Швіц і лаўнікам. Калі найстарэйшаму з сыноў споўнілася дваццаць гадоў і ён мог стаць самастойным гаспадаром, Мікалай папрасіў у жонкі дазволу адысці ад сям'і і далейшае жыццё прысвяціць духоўнасці; яна згадзілася. Меў ён шмат відзежаў, якія кіравалі ягонымі паводзінамі, у тым ліку і ягоным адыходам ад сям'і, як гэта зрабілі евангельскія апосталы. Пабудаваў ён шалаш недалёка ад свайго дома, а пасля ягоныя паклоннікі пабудавалі яму там жа скіт. Цягам сваіх апошніх дваццаці гадоў жыцця харчаваўся ён толькі еўхарыстыяй, піў толькі ваду з крыніцы. Яго наведвалі розныя людзі, часта просячы парад, у тым ліку і высокапастаўленыя чыноўнікі. Між іншым, у 1481 годзе дайшло да гарачага канфлікту паміж гарадскімі і сельскімі кантонамі, які пагражаў міжусобнай вайной і распадам федэрацыі. Сканфліктаваныя бакі звярнуліся да Мікалая і яго медыяцыя прадухіліла ўзаемнае кровапраліцце швейцарцаў. У выніку да Швейцарскай Канфедэрацыі далучыліся яшчэ два чарговыя кантоны Фрыбур і Золатурн... Гэтая падзея лічыцца адной з галоўных у швейцарскай гісторыі, якая ўратавала дзяржаўнае адзінства, а самога Мікалая з Клюэ суграмадзяне лічаць адным з важнейшых заснавальнікаў сваёй дзяржавы. Памёр ён роўна ў семдзесят гадоў: 21 сакавіка 1487 года. Яго палітычным лозунгам было як найдалей трымацца ад інтарэсаў вялікіх дзяржаў і не ўмешвацца ў чужыя справы. Уражвае і ягоная малітва: „Пане і Божа мой — забяры ад мяне ўсё, што перашкаджае быць з Табою. Пане і Божа мой, дай мне ўсё, што набліжае мяне да Цябе. Пане і Божа мой, забяры мяне ад мяне самога і дазволь мне суцэльна быць з Табою". Мікалай з Клюэ лічыцца нябесным заступнікам Швейцарыі, Братам Клаўсам; быў ён беатыфікаваны ў 1669 годзе, а ў 1947 годзе кананізаваны. Да ўсяго гэтага варта згадаць пра Цуд у Вальдэнбургу. 13 мая 1940 года на небе над мясцовасцю Вальдэнбург, што між Базелем і Золатурнам, паказалася светлавая рука. Швейцарцы патлумачылі гэта заступніцкай рукой Брата Клаўса, якая прадухіліла нападзенне гітлераўскай Германіі на іх краіну...

Недалёка езуіцкага касцёла знаходзіцца чыгуначны вакзал Люцэрна. Уразілі мяне там не паязды, але веласіпеды, а дакладней — іх стаянка перад вакзалам. Яна разлічана бадай ці не менш як на сотку байкаў. І ўся імі запоўнена! Швейцарцам нялёгка карыстацца аўтамабілямі з-за старых цесных вуліц, таму яны воляй-няволяй вымушаны прыводзіць у рух гэтыя простыя сродкі перамяшчэння сілай сваіх ног. Быццам кіруючыся рэфлексіямі свайго славутага рэнесанснага натураліста Конрада Геснера. І вынікі ў веласпорце ёсць: Роберт Дыль-Бундзі стаў залатым прызёрам маскоўскай алімпіяды, а Фабіо Канчэлара перамог у Пекіне і Рыо-дэ-Жанейра...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 21